Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!



# Літаратура і мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 3 чэрвеня 1988 г. № 23 (3433) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.

## У ГОНАР ПЕСНЯРА

Чарговае гарадское свята паэзіі, прысвечанае памяці Якуба Коласа, прайшло ў Цэнтральным дзіцячым парку імя М. Горкага г. Мінска. Гаворку пра неўміручую творчасць песняра пачаў С. Законнікаў. Яго дапоўнiў М. Лужанін. Даваенны час, калі на цяперашняй тэрыторыі парку знаходзіўся дом Я. Коласа, прыгадаў сын паэта Д. Міцкевіч. Асобныя факты з тагачаснага жыцця песняра ўспомніла таксама рэжысёр тэатра імя Янкі Купалы Г. Уладамірская, якая была суседкай Коласавай сям'і. Пра тое, як Я. Колас сваім палымяным словам набліжаў дзень Перамогі, расказаў М. Татур. П. Прыходзька, В. Жуковіч, М. Мятліцкі пазнаёмілі прысутных з вершамі, прысвечанымі незабыўнаму песняру.

Творы Я. Коласа прачыталі заслужаныя артысты рэспублікі Г. Рыжкова і П. Дубашынскі. Заслужаная артыстка рэспублікі В. Шутава пад акампанемент баяніста Л. Шурмана выканала «Мой родны кут...» і беларускія народныя песні.

**К. СЦЕПАНЮК.**




Выступае Сяргей Законнікаў. Фота Ул. КРУКА.

## УНУМАРЫ:



## ЛІТАБ'ЯДНАННЮ— 70 ГАДОЎ

Слаўны юбілей адзначыла літаратурнае аб'яднанне «Зарніцы», якое працуе пры рэдакцыі клімавіцкай раённай газеты «Новае жыццё». Вось ужо на працягу сямідзесяці год рэгулярна на старонках раённі з'яўляюцца творы яго членаў— вершы, замалёўкі, апавяданні і нават п'есы. Некалі тут пачыналі адточваць сваё пяро І. Новікаў, П. Кавалёў, А. Вярцінскі, П. Пруднікаў, Т. Дзмітрусёва, А. Руцкая і іншыя.

У свой час у газеце друкаваліся П. Трус, М. Чарот, А. Якімовіч, К. Чорны, А. Дудар, У. Дубоўка, Я. Пушча, С. Музыка, Я. Падабед, А. Гурло, Ю. Таўбін, М. Зарыцкі, А. Асіпенка, П. Прыходзька, А. Пруднікаў.

Цяпер у літаб'яднанне ўваходзяць у асноўным людзі з багатым жыццёвым вопытам.

Адказны сакратар газеты паэт М. Мінчанка, які ўзначальвае літаб'яднанне на працягу многіх гадоў, выдаў дзве кніжкі вершаў, удастоены абласной камсамольскай прэміі.

Ёсць намер выпусціць калектыўны зборнік членаў літаб'яднання «Зарніцы»—аднаго са старэйшых у рэспубліцы, якое ўзяло пачатак з літаратурна-мастацкага дадатка да газеты, што выходзіла ў Клімавічах у дваццатых гадах.

**І. ЛАПО,**
**супрацоўнік клімавіцкай раённай газеты «Новае жыццё».**

## МАРШРУТЫ ГАСТРОЛЬНАГА ЛЕТА



Сцэна са спектакля «Марцін Крпан».

ТОЛЬКІ чатыры дні працягваліся ў Мінску гастролі Люблянскага тэатра лялек, але спектаклі яго ў памяшканні Тэатра юнага гледача выклікалі вялікую цікавасць як дзяцей, так і дарослых. Прычына папулярнасці ў тым, што гэты калектыў (яму споўнілася 40 гадоў) ужо знаёмы мінчанам па папярэдніх гастролях. Тады, у 1985 годзе, люблянцы паказалі спектакль «Казёл адпушчэння ў Вішне горы». Сёлета ж у гастрольную афішу былі ўключаны спектаклі «Супермышка» (для дзяцей) і «Марцін Крпан».

Дарэчы, у беларускіх і славенскіх лялечнікаў цесныя ўзаемасувязі. У рамках культурнага абмену паміж Беларуссю і Славеніяй на сцэне Дзяржаўнага тэатра лялек БССР пастаўлена п'еса славенскага драматурга С. Грума «Здарэнне ў горадзе Гога», а ў наступным годзе павінна адбыцца паездка ў Югаславію творчых работнікаў беларускага лялечнага тэатра.

ДЗЕВЯЦЬ сваіх лепшых работ уключыў у гастрольную афішу Мурманскі абласны драматычны тэатр. Створаны ў 1938 годзе як філіял Ленінградскага акадэмічнага Вялікага драматычнага тэатра імя Горкага, ён імкнецца ўзнімаць на сваёй сцэне вострыя, надзённыя праблемы. У прыватнасці, мінчане і госці сталіцы рэспублікі пазнаёмяцца з такімі спектаклямі, як «Дыктатура сумлення» М. Шатрова, «Сабачае сэрца» паводле М. Булгакава, «А раніцой яны прачнуліся...» В. Шукшына, «Чорная нявеста» Ж. Ануя, «Дарагая Алена Сяргееўна» Л. Разумоўскай і іншымі. Тры спектаклі адрасуюцца дзецям.

Дарэчы, у Мурманску зараз выступае Рускі тэатр БССР імя М. Горкага.

Абменныя гастролі двух вядомых калектываў — яшчэ адно пацвярджэнне плённасці творчых кантактаў. Важна і тое, што ў час гастроляў адбудуцца не толькі спектаклі, але і непасрэдныя сустрэчы акцёраў у працоўных калектывах.

**В. ЗАКРЭЎСКІ.**

ЛЬВОЎСКІ дзяржаўны ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга ўкраінскі драматычны тэатр імя М. Занькавецкай свае гастролі ў Мінску адкрыў сцэнічнай аповесцю І. Рабакляча «Марыя Занькавецкая». Праўдзівая гаворка аб жыццёвым і творчым шляху выдатнай украінскай актрысы, чалавека вялікага сэрца і шчодрай душы прагучала своеасаблівым камертонам да афішы гасцей.

Адзін са старэйшых тэатраў братняй рэспублікі—у Мінску львоўцы завяршаюць свой 66-ы сезон — выносіць на глядацкі суд работы, сугучныя часу. Да якіх бы падзей тэатр ні звяртаўся — да мінуўшчыны ці да дня сённяшняга, ён імкнецца да раскрыцця складанага свету чалавека. У афішы — спектаклі па п'есах І. Карпенкі-Карага «Жыцейскае мора» і «Няшчасная», М. Старыцкага «Ой, не хадзі, Грыцю», «Гайдамакі», створаныя па аднайменнай паэме Т. Шаўчэнкі і іншыя.

Дзве адметнасці гастрольнай афішы. Госці з Львова пакажуць спектакль «Мар'я» па п'есе А. Кудраўцава. Мяркуецца, што ў Мінску адбудзецца прэм'ера «Дзяцей Арбата» па аднайменным рамане А. Рыбакова.

**А. БЕЛАВОКІ.**

*ДА XIX УСЕСАЮЗНАЙ ПАРТЫЙНАЙ КАНФЕРЭНЦЫІ*

# ПРА САМАЕ ГАЛОЎНАЕ

**Тэзісы ЦК КПСС да XIX Усесаюзнай партыйнай канферэнцыі апублікаваны для абмеркавання камуністамі, усімі працоўнымі краіны.**

**Радыё- і тэлеэфір, старонкі друку ўжо запоўнены шматлікімі водгукамі. Але гэта не тыя водгукі для праформы, якія можна было пачуць яшчэ не так даўно — з абавязковымі формуламі: «Аднадушна падтрымліваем», «гістарычны дакумент». Ідзе страсная, зацікаўленая размова, дыскусія, спрэчка. Інакш і быць не можа. Канечне, гістарычнае значэнне таго або іншага дакумента вызначыць толькі гісторыя. Але тое, што зараз ніхто не можа заставацца раўнадушным да зместу Тэзісаў, што яны сталі ўжо неад'емнай і істотнай часткай нашага грамадскага існавання, — факт. Бо ў гэтым дакуменце пастаўлены пытанні пра самае галоўнае, самае важнае...**

**«Я раіў бы вельмі зрабіць на гэтым з'ездзе рад перамен у нашым палітычным ладзе». Гэтыя радкі, з якіх пачынаецца палітычнае завяшчанне Леніна — «Пісьмо з'езду», — Уладзімір Ільіч прадыктаваў у снежні 1922 года.**

**Цяпер, на новым этапе, наша грамадства зноў вяртаецца да рэвалюцыйных ленінскіх ідэй, ленінскіх уяўленняў аб сацыялізме, сацыялістычнай дзяржаўнасці. Пачатак глыбокім рэвалюцыйным пераўтварэнням быў пакладзены красавіцкім (1985 г.) Пленумам ЦК КПСС, рашэннямі XXVII з'езда КПСС. Важнейшымі вехамі на гэтым шляху, падкрэсліваецца ў Тэзісах, сталі студзеньскі і чэрвеньскі Пленумы ЦК КПСС 1987 года, святкаванне 70-годдзя Кастрычніка, лютаўскі Пленум ЦК гэтага года.**

**Перабудова ўжо мае сваю гісторыю. Значэнне перамен, якія адбыліся ў яе ходзе ў нашай краіне, немагчыма пераацаніць. Але, як сказана ў Тэзісах, усё зробленае да гэтага часу — толькі подступ да глыбокай і ўсебаковай дэмакратызацыі партыі і грамадства, поўнага раскрыцця пераваг сацыялізму.**

**«Аб'ектыўны аналіз дасягнутага за тры гады ў эканоміцы, сацыяльнай сферы і культуры, асэнсаванне праблем, узнікшых у ходзе перабудовы, падвялі да вываду аб неабходнасці рэформы палітычнай сістэмы савецкага грамадства», — гаворыцца ў Тэзісах. «У выніку перабудовы,—сказана ў іх далей,— палітычная сістэма савецкага грамадства павінна быць вызвалена ад усяго, што звязана з вынікамі культу асобы, каманднa-адміністрацыйнымі метадамі кіравання, бюракратызмам, адчужэннем працоўных ад улады, адступленнем ад ленінскіх норм партыйнага і дзяржаўнага жыцця. Яна павінна стаць дынамічнай, здольнай да своечасовага абнаўлення з улікам зменлівых умоў унутранага і міжнароднага жыцця».**

**Цэнтральнае месца на Усесаюзнай канферэнцыі безумоўна будзе адведзена пытанню аб ролі авангарда нашага народа — Камуністычнай партыі — ва ўмовах перабудовы. Перабудова павінна перш за ўсё адбыцца ў самой партыі. Партыя знайшла ў сабе сілы і мужнасць самакрытычна паставіцца да метадаў кіраўніцтва, ацаніць сітуацыю ў краіне пасля гадоў застою, што паставілі яе на грань эканамічнага крызісу. Цяпер неадкладная задача, як падкрэсліваецца ў Тэзісах, — «стварыць такія палітычныя механізмы і гарантыі, якія выключалі б у будучым магчымасць парушэння ленінскіх прынцыпаў партыйнага кіраўніцтва грамадствам».**

**Што можа стаць такімі гарантыямі? На канферэнцыі будуць разгледжаны прапановы ЦК КПСС аб свабодзе дыскусій у партыі, аб дакладным размежаванні функцый партыі і дзяржавы, аб павышэнні ролі пярвічных арганізацый. Рашуча павінна павысіцца патрабаванне да ўступаючых у рады КПСС. Для самаачышчэння і ўмацавання партыі прапануецца правесці перад чарговым з'ездам КПСС грамадска-палітычную атэстацыю ўсіх камуністаў.**

**Пры фарміраванні партыйных органаў — да ЦК КПСС уключна— неабходна, каб стала нормай сапраўдная спаборнасць, шырокае абмеркаванне кандыдатур, тайнае галасаванне. Займанне выбарных пасад трэба абмежаваць двума выбарнымі тэрмінамі запар, у выключных выпадках — трыма.**

**Важнейшае месца ў Тэзісах займае пытанне аб аднаўленні ў поўным аб'ёме ролі і паўнамоцтва Саветаў народных дэпутатаў як паўнаўладных органаў народнага прадстаўніцтва.**

**Важнае месца ў Тэзісах адводзіцца пытанню міжнацыянальных зносін, развіццю Савецкай Федэрацыі. «Ключ да далейшага развіцця нацый і адначасова да ўмацавання дружбы паміж імі, згуртаванасці савецкага грамадства, — адзначаецца ў дакуменце, — у арганічным спалучэнні самастойнасці саюзных і аўтаномных рэспублік, іншых нацыянальных утварэнняў з іх адказнасцю за агульнасаюзныя дзяржаўныя інтарэсы».**

**Гуманістычная сутнасць сацыялізму мае магутную прыцягальную сілу. Але для таго, каб сацыялістычныя ідэалы не заставаліся проста дэкларацыяй, неабходна напоўніць іх рэальным зместам нашых паўсядзённых спраў. Да гэтага і заклікаюць Тэзісы ЦК КПСС.**

Анкета «ЛіМа»

# БОЛЬШ ДЭМАКРАТЫІ, БОЛЬШ САЦЫЯЛІЗМУ!

**Партыя, усё грамадства вядуць дзейную падрыхтоўку да XIX партыйнай канферэнцыі. «ЛіМ» звярнуўся да некаторых сваіх чытачоў з пытаннем «Якія праблемы вы ўзнялі б, на чым засяродзілі б увагу, калі б вам давялося выступіць з трыбуны канферэнцыі?». У нумарах газеты за 20 і 27 мая г. г. былі апублікаваны першыя адказы на пытанне лімаўскай анкеты. Сёння бяруць слова народны мастак БССР Г. Вашчанка і кампазітар А. Рашчынскі.**

**Гаўрыла ВАШЧАНКА**



## Талент зацікаўлены ў дэмакратызацыі

Я мастак, і гаварыць буду пра тое, што хвалюе мяне менавіта як мастака. Пытанні, якія будуць абмяркоўвацца на XIX Усесаюзнай партыйнай канферэнцыі, нібыта не маюць прамых адносін да мастацтва, але ад рашэнняў канферэнцыі, залежыць лёс нашага грамадства, а значыць, і лёс культуры.

Пачатак маёй уласнай творчай дзейнасці прыпадае на другую палову 50-х гадоў, час выкрыцця культу асобы. Я памятаю, які магутны штуршок далі развіццю мастацтва XX і XXII партыйныя з'езды—і літаратуры, і кіно, і выяўленчаму мастацтву. Гэта быў сапраўдны прарыў у праўду жыцця. Тое, што адбываецца зараз, вельмі нагадвае мне тыя часы. Па маштабах перабудовы і па характары асэнсавання мінулага. Але адрозненне, відаць, у тым, што сёння мастакі больш дбаюць пра сваю індывідуальнасць, пра ўласнае аблічча ў мастацтве. Гэта натуральна, пасля гадоў застою, вымушанага маўчання людзі імкнуцца да самавыражэння. Хай бы толькі ў пошуках уласнага шляху, у пошуках выяўленчых сродкаў не згубілася мэта — стварэнне мастацтва, вартага нашага народа. Хай бы перабудова не стала проста дзяжурнай тэмай.

Зараз у мастацтве адбываецца свайго роду палярызацыя пазіцый адносна далейшага развіцця культурнага працэсу. Сапраўдны талент зацікаўлены ў дэмакратызацыі, бо гэта — абавязковая ўмова яго свабоднага развіцця. Але ж шмат і такіх, хто болей спадзяецца не на талент, і нават не на прафесіяналізм, а на кан'юнктурную тэму і «доўгую руку». Такім прасцей (асабліва калі ўладкаваўся блізка ля кармушкі). Яны — за камандны стыль кіраўніцтва: не трэба думаць, толькі чакай указання зверху.

Відаць, ёсць нейкая заканамернасць у тым, што прарывы ў мастацтве папярэднічаюць значным сацыяльным пераменам. Многае з таго, што мы сёння адкрываем у літаратуры і кіно, рабілася ў гады застою і чакала свайго часу. А калі паглыбіцца ў гісторыю, дык і кастрычніцкі выбух быў падрыхтаваны ў пэўнай ступені дасягненнямі культуры — творчасцю Дастаеўскага, Чэхава, Талстога. І сёння пытанне аб духоўным патэнцыяле перабудовы стаіць вельмі сур'ёзна.

Што можа зрабіць мастацтва для неабарачальнасці працэсу дэмакратызацыі, публічнасці, перабудовы? Думаю, перш-наперш, перабудавацца самому. Гэта не значыць, што ўсе павінны кінуцца ствараць палотны на новыя сюжэты. Гэта была б чарговая кан'юнктура. Але мастакі павінны вызначыць сваё стаўленне да перамен. У нашым асяроддзі павінен усталявацца плюралізм меркаванняў. На словах праблем нібыта няма, але на справе мы да такога плюралізму яшчэ не гатовыя.

Адсутнасць плюралізму выяўляецца і ў праблеме нефармалаў, дакладней, у самім існаванні ў Беларусі нефармалаў як праблемы. (Я памятаю, калі Джэму Скулме спыталі, ці ёсць нефармальныя мастацкія аб'яднанні ў Латвіі, яна адказала: «Не, мы проста працуем з моладдзю»). Не павучаць моладзь, а супрацоўнічаць з ёю — вось што павінна быць прынцыпам адносін. І гэта было б магчыма пры ўнутранай дэмакратыі творчага саюза. Калі ёсць, напрыклад, аб'яднанне «Няміга», дык могуць быць таксама і іншыя.

Другое пытанне — на якіх правах увогуле існуе мастацтва ў нашым грамадстве? Вось прыклад, пра які не так даўно паведамлялася ў «ЛіМе». У Інстытуце тэхнічнай кібернетыкі АН БССР быў знішчаны насценны роспіс, які шмат гадоў упрыгожваў інтэр'ер. Знішчаны па загадзе новага дырэктара, бо не адпавядаў ягонаму густу. Гэты факт неяк не стасуецца з тым, што «мастацтва належыць народу». З музейнымі каштоўнасцямі справа больш-менш вырашана, а манументальнае мастацтва часта не мае гаспадара. Страшна ўявіць, колькі манументальных твораў страчана (дакладней, знішчана) па Саюзе за апошнія 20 год. Чарговы капітальны рамонт будынка — і няма роспісу. Поўнае бяспраўе мастака перад адміністрацыйным свавольствам.

Выпадкі, накшталт прыгаданага, нярэдка здараюцца і ў іншых сферах. Калі дырэктар інстытута перарабляе на свой густ будынак установы, нібыта гэта ўласная кватэра, дык чыноўнік з ГалоўАПу робіць тое ж самае ўжо з цэлым горадам. Ну а калі забрацца вышэй, дык ёсць магчымасць нават вырашаць лёс цэлых рэгіёнаў, раўняць горы, паварочваць рэкі і г. д.

Неабходны кантроль грамадства за дзейнасцю чыноўніка. Неабходны заканадаўчыя гарантыі неабарачальнасці перабудовы. У той жа час самыя лепшыя законы будуць бяздзейснымі без сацыяльна-актыўных людзей. І тут мы зноў вяртаемся да пачатку размовы, да мастацтва, якое павінна выхаваць чалавека перабудовы.

**Алесь РАШЧЫНСКІ**



## Другой перабудовы ў нас не будзе!

Для таго, каб выступіць на XIX партканферэнцыі, на яе трэба яшчэ трапіць. Як паказаў спіс дэлегатаў ад Мінскай абласной партыйнай арганізацыі, адносіны да прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі засталіся старымі: яе недаацэньваюць (3 чалавекі з 64). Паўстае пытанне: а ці зрабіў бы Ленін рэвалюцыю без інтэлігенцыі? А ці зробім мы перабудову без яе? Цяперашні крызіс краіны стаў магчымы з-за таго яшчэ, што інтэлігенцыя і яе слушныя прапановы ігнараваліся. Ну дык як: будзем паглыбляць крызіс ці выходзіць з яго?

А пакуль што ў газетах пішуць, што ў радзе месцаў да выбараў паставіліся фармальна, забыўшыся, што на канферэнцыі трэба будзе працаваць, а не гуляць у статыстаў.

На канферэнцыі, галоўным чынам, трэба будзе вырашаць палітычныя пытанні. Гэта няпроста таму, што многія гады нас не выхоўвалі як свядомых палітычных барацьбітоў. Канферэнцыя павінна гарантаваць правядзенне ўсенародных рэферэндумаў. Няхай народ адвучваецца быць апалітычным.

Грамадства наша хворае. Мы хварэем на хваробу, якая называецца «сталінізмам». Сталін дэфармаваў ленінізм, цяпер нам трэба — перад памяццю Леніна — выкараніць рэшткі сталіншчыны.

Сказаў бы я з трыбуны канферэнцыі і аб залішняй цэнтралізацыі нашага грамадска-палітычнага і эканамічнага жыцця — галоўнай, на мой погляд, прычыне заняпаду краіны. З ёй у Савецкай Расіі змагаўся яшчэ Ленін. Сталін жа змагаўся з іншым — нават з самай малой праявай рэспублікамі самастойнасці, бо бачыў у гэтым падрыў саюза рэспублік, не разумеючы таго, што чым больш самастойнай будзе рэспубліка, тым яна будзе мацней, а чым мацнейшыя будуць рэспублікі, тым мацней будзе іх саюз.

Чаму, напрыклад, на 100 нацый, народаў і народнасцей краіны выходзіць адна пастанова аб паляпшэнні вывучэння рускай мовы? Чаму на 100 нацый і народнасцей зацвярджаецца адзіная методыка агульнаадукацыйнай падрыхтоўкі школьнікаў (у Балгарыі, напрыклад, іх 15)?

Мы нашы беды звальваем на тое, што, маўляў, краіна вялікая, пакуль раскалыхаецца... А хто нам перашкаджае гэту вялікую краіну ўспрымаць як супольніцтва 15 самастойных, але крыху меншых краін? Дык, можа, меншыя лягчэй раскалыхаць?

Адсюль выснова: моц наша не ў аднастайнасці, а ў разнастайнасці рэспублік.

Горкія старонкі нашай гісторыі сведчаць, што нават з народамі можна рабіць розныя эксперыменты: перасяляць іх, адрываць ад зямлі, ад мовы, зліваць нацыі раней, чым яны самі сальюцца, і г. д. У выніку аднаго з такіх эксперыментаў мы маем у рэспубліцы на сённяшні дзень эксперыментальную мадэль «развітога двухмоўя». Нагадаю, што такой канцэпцыі Ленін нам не пакідаў. У сферы культуры Ленін пакінуў нам такую геніяльную думку: «Не **выдумка** новой пролеткультуры, а **развитие** лучших образцов, традиций, результатов **существующей** культуры»... Сказана гэта ў 1920 годзе.

Не можа адзін народ адначасова развіваць дзве мовы, дзве культуры — гэта супярэчыць самой прыродзе. А чаму не 3, 4? Але што прырода для валюнтарыста!

Мовы роўныя толькі кожная на сваёй зямлі. Лозунг «развітога двухмоўя» спатрэбіўся бюракрату. Яму ўвогуле патрэбна толькі адна «мова» — мова загаду.

Прапанаваў бы надаць беларускай мове статус дзяржаўнай у Беларусі, увесці яе ў справаводства.

Хачу зрабіць наказ беларускім дэлегатам: «Паважаныя таварышы! Помніце, што другой перабудовы ў нас не будзе. Гэта апошні наш шанц. Ад вашых слоў і ўчынкаў на канферэнцыі будзе залежаць наша з вамі далейшае жыццё».

кой сфальсіфікаванай гісторыяй, як наша». Ну, а калі наглядзець на праблему ў межах нашай краіны, дык сярод тых народаў, мінулае якіх сфальсіфікавана найбольш, бадай што ў ліку першых апынемся мы, беларусы. Я кажу гэта не толькі як літаратар, але і як выпускнік гістарычнага факультэта БДУ. Не ведаю, ці ёсць яшчэ дзе-небудзь у нашай краіне гістарычны факультэт, выкладчыкі якога так настойліва пераконвалі б студэнтаў у памылках Маркса і Энгельса. Гаворка ідзе найперш аб рабоце Ф. Энгельса «Знешняя палітыка рускага царызму», дзе зроблены бліскучы аналіз захопніцкай палітыкі расійскага самаўладдзя. Ну, а XIV том «Архіва Маркса і Энгельса», які цалкам прысвечаны гісторыі Рэчы Паспалітай, а значыць, і Беларусі, нашы гісторыкі старанна замоўчваюць. Не буду казаць пра ўзровень падручнікаў па гісторыі БССР і для школ, і для ВНУ, пра гэта ўжо дастаткова сказана ў нашым друку.

Наваполацкае літаб'яднанне разам з аддзелам культуры сёлета адкрылі гарадскія курсы беларускай мовы і гісторыі. Балюча бачыць, як слухачы гэтых самадзейных курсаў, людзі, якія ўсё жыццё пражылі на Беларусі, запісваюць у свае сшыткі, хто такія Ефрасіння Полацкая, Мікола Гусоўскі, Сымон Будны ці Ігнат Грынявіцкі, запісваюць тое, што яшчэ ў дзяцінстве павінны былі б чуць ад бацькоў або ў пачатковых класах сярэдняй *школы. Вось узровень нашай* гістарычнай адукацыі і нашай гістарычнай свядомасці.

Прасцей за ўсё было б абвінаваціць у такім становішчы адных гісторыкаў. Але галоўная віна, як мы разумеем, ляжыць не на іх. Рэжыму, які ўсталяваўся ў нашай краіне ў канцы 20-х гадоў, гісторыя як навука была непатрэбная. Яна была патрэбна гэтаму рэжыму як паслугачка прапаганды, патрэбна для апраўдання крывавых злачынстваў, калі фізічна ці маральна знішчалася лепшая частка грамадства. Той страшны час і нарадзіў гісторыкаў, якія, абвяшчаючы сябе марксістамі, служылі не марксізму, не народу, не ісціне, а — уладзе. Гэтым людзям было абыякава, чытае народ іх творы ці не, галоўнае, каб наверсе былі задаволены. Сказаць, што такое становішча незваротна канула ў Лету,—значыць сказаць няпраўду.

Бюракратыі, як вядома, трэба не чалавек-творца, не чалавек-мысліцель, ёй трэба не абцяжараны лішнімі ведамі чалавек-функцыянер. Бюракратыя не любіць, калі ў яе пад нагамі блытаюцца розныя непаслухмяныя гісторыкі і іншыя асобы, якія перашкаджаюць займацца сапраўды дзяржаўнымі справамі. Бюракратыя ніколі не была і не будзе зацікаўлена ў жывой дзейнасці. Яна зацікаўлена ў іншым — у імітацыі гэтай дзейнасці. Навошта займацца нялёгкай работай па выпраўленню грубых парушэнняў ленінскай нацыянальнай палітыкі, якія паставілі беларускую мову на мяжу знікнення? Лепей правесці якую-небудзь кампанію па выкрыцці і прыняць яшчэ адну пастанову па ўзмацненні выхаваўчай работы.

Вышэй я казаў, што значная частка, а магчыма, і большасць нашых гісторыкаў застаюцца на старых пазіцыях. Вядома, кіраўніцтва Інстытута гісторыі АН БССР, Інстытута гісторыі партыі, гістарычнага факультэта БДУ будзе сцвярджаць, што гэта не так, што калі яны яшчэ не зусім вызваліліся са старых бюракратычных путаў, дык, прынамсі, прагнуць хутчэй з іх вырвацца. Вельмі хацелася б паверыць, але ж выступленні нашых масцітых гісторыкаў у друку сведчаць якраз пра адваротнае.

Адзін з апошніх прыкладаў рэакцыі нашых гісторыкаў на крытыку — надрукаванае ў 4-м нумары «Политического собеседника» інтэрв'ю з доктарам гістарычных навук прафесарам А. М. Малашкам. Доктар гістарычных навук дэманструе няўменне ці нежаданне зразумець тое, што ён бярэцца крытыкаваць. Стары знаёмы прыём перакручвання фактаў і прыпісвання апаненту таго, чаго той не казаў. А. М. Малашка суцяшае чытача, што, маўляў, рэцэнзія Залескага на кнігу Кастуся Тарасава «Памяць пра легенды» была апублікавана ў «Коммунисте Белоруссии» вельмі даўно, ажно два гады назад і наогул «А. Залесский — давно уже пенсионер и не оказывает на развитие исторической науки в Белоруссии сколько-нибудь значительного влияния». Праўда, пры гэтым прафесар Малашка чамусьці сарамліва маўчыць пра тое, што аглабельныя артыкулы Залескага працягваюць публікаваць нашы рэспубліканскія выданні.

Для рэдакцый, якія любяць даваць слова прафесару Залескаму, хацелася б паведаміць, што гэты аўтар не з'яўляецца спецыялістам па гісторыі Беларусі эпохі феадалізму. Усе асноўныя працы Залескага прысвечаны побыту беларускага народа ў перыяд Вялікай Айчыннай вайны. Даследаваў ён таксама і вобраз І. В. Сталіна ў партызанскім фальклоры. Пачытаць артыкулы па гэтых тэмах было б сапраўды цікава і карысна.

На пачатку XX ст. М. Багдановіч напісаў горкія словы пра абкрадзеную душу беларускага народа, у якой «нават мовы няма». Словы М. Багдановіча не *страцілі* сваёй актуальнасці і сёння. Беларусам трэба вярнуць украдзены скарб — вярнуць не толькі мову, але і гісторыю.

Што, на маю думку, трэба для гэтага зрабіць?

Безумоўна, патрэбны новыя падручнікі па гісторыі Беларусі для сярэдніх школ і ВНУ. Аднак перагляду патрабуюць не



В. Трасцянецкі, М. Кругавых, В. Трыхманенка, Л. Прокша.

толькі падручнікі — уся сістэма выкладання роднай гісторыі. Хіба магчыма нават па самым выдатным падручніку вывучыць гісторыю свайго народа за 34 гадзіны, якія адведзены на гісторыю БССР з 4 па 10 класы? Задача ў тым, каб узняць родную гісторыю да самастойнага прадмета школьнай праграмы.

Падобная задача стаіць і ў іншых рэспубліках, у тым ліку і ў нашых суседзяў-прыбалтаў, хоць там узровень гістарычнай свядомасці непараўнальна вышэйшы. Між тым, нядаўна ў друку з'явілася паведамленне, што ў гэтым навучальным годзе на вывучэнне курса гісторыі Латвійскай ССР дадаткова выдзелена 35 гадзін. А што зроблена ў нас? А ў нас у «Настаўніцкай газеце» надрукаваны інструкцыйны ліст упраўлення школ Міністэрства асветы БССР (цяпер ужо былога) «Аб выкладанні гісторыі ў вячэрніх школах у 1987-88 навучальным годзе». У гэтым дакуменце, між іншым, гаворыцца, што ў X класе вячэрніх школ «паменшана колькасць гадзін на вывучэнне гісторыі, таму дапушчальна матэрыял па гісторыі БССР вывучаць сумесна з адпаведным матэрыялам па гісторыі СССР на адных і тых жа ўроках». Практычна гэта азначае скасаванне самастойных урокаў па гісторыі Беларусі на працягу ўсяго навучальнага года. Вось такая перабудова!

Далей. Прыйшоў, думаецца, час выдавецтву «Мастацкая літаратура» заснаваць «Бібліятэку беларускай гістарычнай прозы». У яе першыя тамы маглі б увайсці зробленыя для шырокага чытача пераклады некаторых беларускіх летапісаў, «Жыціе Ефрасінні Полацкай», «Слова пра Меркурыя Смаленскага», «Аповесць пра Жыгімонта і Барбару Радзівіл» і іншыя помнікі старажытнабеларускай гістарычнай літаратуры. Папулярнасць гістарычных твораў У. Караткевіча, К. Тарасава, В. Іпатавай, Л. Дайнекі, Э. Ялугіна, В. Коўтун і іншых аўтараў упэўнівае, што кнігі з гэтай серыі не будуць пакрывацца пылам на паліцах.

Неўшанаванай належным чынам застаецца памяць шмат якіх выдатных дзеячаў беларускай гісторыі. Дагэтуль няма помніка нават нашаму К. Каліноўскаму. Мы яшчэ не ўшанавалі, як ён таго заслугоўвае, і нашага выдатнага пісьменніка У. Караткевіча. У канцы мінулага года ўдзельнікі пасяджэння Савета па беларускай літаратуры пры СП СССР прынялі ў Маскве ліст, адрасаваны Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР, з просьбай надаць У. Караткевічу годнасць народнага пісьменніка Беларусі пасмяротна (як, напрыклад, у свой час было зроблена з Я. Райнісам.) Наколькі мне вядома, ні аўтары ліста, ні кіраўніцтва СП БССР адказу дагэтуль не атрымалі.

Я выйшаў на гэтую трыбуну з сямейнай рэліквіяй. Гэта даведка аб пасмяротнай рэабілітацыі майго дзеда Максіма Дзянісавіча, які ў 33-м стаў ахвярай крывавай вакханаліі сталінізму. Унізе гэтай шэрай казённай паперкі пазначаны тыраж — 10 тысяч. Калі мы даведаемся, колькі было такіх тыражоў? Калі даведаемся пра колькасць ахвяр таго страшнага часу ва ўсёй краіне і на Беларусі? Калі можна будзе ўскласці кветкі да помнікаў гэтым ахвярам? Будзем спадзявацца, што мы дажывём да таго часу. А пакуль трэба ўвекавечыць памяць тых, пра каго мы ўжо ведаем. Скульптар Алесь Шатэрнік стварыў праект мемарыяльнай дошкі ў памяць аб рэпрэсіраваных пісьменніках. Побач з прозвішчамі тых, хто загінуў у Вялікай Айчыннай вайне, у нашым Доме літаратара павінна з'явіцца мемарыяльная дошка з прозвішчамі ахвяр беззаконня, якія таксама аддалі сваё жыццё за ідэалы сацыяльнай і нацыянальнай справядлівасці.

---

Чаму вялікі пласт гісторыі беларускага народа застаецца яшчэ не ўзараны і не засеяны нашымі літаратарамі? Адназначна на гэта не адкажаш. У гэтым шмат гістарычных прычын. Адна з важнейшых — цяжкі перыяд аднамыслення, культ асобы. А ўсё ж шмат у чым вінаваты вучоныя-гісторыкі. Іх працы і павярхоўныя, і нецікавыя, без душы. Выкладанне гэтага прадмета ў школах і ВНУ такое, што адбівае ўсякую зацікаўленасць да блізкага і далёкага мінулага.

І яшчэ адна праблема, пра якую хацелася б сказаць. Так ужо вядзецца даўно, што дакументальная літаратура фактычна не лічыцца літаратурай. А ў нас жа існуе, без перабольшання кажучы, значная дакументалістыка. Яна шматтэмная, шматжанравая. І пра мінулае і пра сённяшні дзень. Цэлая плынь твораў. Ці разабраўся хто ў гэтай плыні? Думаю, што не.

**Г. Каханоўскі:** Я скажу пра тое, што мне бліжэй, а менавіта пра музеі і гістарычнае краязнаўства.

Бум турызму закрануў і Беларусь. Шмат народу ідзе ў музей Вялікай Айчыннай вайны, у Хатынь і на Курган Славы. Няўжо гісторыя абышла наш беларускі народ і яму больш няма чаго паказаць? Я маю на ўвазе Дзяржаўны музей БССР, які ў нас недзе на другім ці на трэцім плане. Знаходзіцца ў прыстасаваным будынку на зацішнай вуліцы К. Маркса. Ды і гучыць як! Толькі ўслухайцеся: Дзяржаўны музей БССР. А пад паказ гісторыі там адведзена толькі некалькі не вельмі вялікіх залаў. Прычым, *дарэвалюцыйны перыяд прадстаўлены* толькі некаторымі важнейшымі вехамі. Як кажуць самі супрацоўнікі музея, у фондасховішчы тоіцца *нямала* тысяч каштоўных матэрыялаў, але плошча не дазваляе паказаць іх наведвальнікам. Здавалася б, музей павінен быў мець іншую назву, напрыклад, Гістарычны музей БССР. Але «перашкаджае» аддзел прыроды, залы якога знаходзяцца, можна сказаць, у падвале. Як я прыпамінаю, ужо добрыя два дзесяцігоддзі гутарка ідзе пра асобны рэспубліканскі музей прыроды. Але ўсё застаецца па-ранейшаму, хоць праблемы экалогіі ўжо не просяць, а крычаць, каб музей такі быў. Калі не браць пад увагу нашы запаведнікі, то Беларусь — адзіная рэспубліка, дзе яшчэ няма агульнанацыянальнага музея прыроды. Ён павінен быць! Тады б хоць на некалькі залаў пашырыўся аддзел гісторыі, каб хоць вытрымаць прапорцыі паказу дакастрычніцкай і савецкай гісторыі Беларусі. Каб урэшце гэты музей стаў нейкім узорам для гістарычных аддзелаў іншых краязнаўчых музеяў рэспублікі.

**Л. КАРАІЧАЎ:** Нагадаю шматразовыя паходы захопнікаў з Захаду на Маскву праз Беларусь. І Карл XII, і генеральная рэпетыцыя Палтаўскай бітвы—бітва пры Лясной, і Напалеон, і першая сусветная вайна. Успомніце нарачанскую аперацыю 1916 года. А колькі народных паўстанняў! Рэвалюцыя. Бітвы грамадзянскай вайны. 1939 год. 41 год. *1100 дзён акупацыі, ба*рацьбы партызан і падпольшчыкаў. І ўсё гэта— на Беларусі. І ўсё гэта яшчэ просіць разумнага, сумленнага вывучэння і мастацкага адлюстравання.

Прыехаў некальні гадоў таму назад знаёмы з Грузіі. Пакажы, кажа, што з беларускага ў вашых тэатрах. За тры дні нічога я паказаць яму не змог. Ні ў оперным, ні ў аперэце, ні ў пяці драматычных тэатрах Мінска нічога з твораў беларускіх аўтараў не ішло.

Напрыклад, п'еса Петрашкевіча «Русь Кіеўская» была ўпершыню пастаўлена ў Сімферопалі і іншых тэатрах за межамі *рэспублікі. А пісалася яна на беларускай* мове і пра беларусаў. Ды і як беларускія п'есы могуць ісці, калі суцэльная чахарда з галоўнымі і чарговымі рэжысёрамі? Многія з іх нават не чытаюць па-беларуску.

**В. Чамярыцкі:** Нам неабходна стварыць цалкам новы падручнік па гісторыі Беларусі. Акрамя таго, на яе вывучэнне трэба адвесці большую колькасць гадзін. У нас яшчэ ні разу не былі выдадзены летапісы, толькі ўрыўкі з іх. А выданне *першакрыніц — найважнейшая задача!* Мы маем Інстытут гісторыі, але ж там павінен быць аддзел крыніцазнаўства і археаграфіі, трэба пашырыць аддзел гісторыі феадалізму, стварыць аддзел беларускай старажытнай літаратуры.

**У. Якутаў:** Калі гаварыць сёння пра нашу гісторыю, то яна будзе праўдзівай толькі тады, калі мы, гісторыкі, атрымаем дазвол працаваць у архівах. Пакуль што гэтага мы не дамагліся.

Хачу звярнуцца да тав. Малашкі, які выказаў свае меркаванні пра п'есу М. Шатрова «Далей... далей... далей!» Прамоўца гаварыў з пазіцыі 30-ых гадоў, а драматург бачыць усё з пазіцый сённяшняга дня. Ісці далей — заклікае ён нас.

Яшчэ ў мяне ёсць прапанова. Васіль Быкаў — сумленне нашага народа, і неабходна надаць яму ганаровае званне акадэміка.

**А. Грыцкевіч, доктар гістарычных навук:** Мае прапановы. Гісторыю Беларусі абавязкова трэба выкладаць на беларускай мове — і ў школе, і ў тэхнікумах, і ў ВНУ.

І наконт нефармалаў. Асноўная маса *гэтых маладых людзей* цікавіцца культурай, літаратурай, гісторыяй белрускага народа. Іх трэба падтрымліваць і накіроўваць.

Пры Беларускім фондзе культуры неабходна *стварыць гісторыка-краязнаўчае* таварыства, якое аб'ядноўвала б тых, хто цікавіцца сваёй гісторыяй. Трэба прасачыць, каб чыноўнікі не звялі гэту справу да збірання ўзносаў і выдання інструкцый.

# КАБ ДОМ НАШ БЫЎ СВЕТЛЫ

**В. Якавенка:** Трывожыць *лёс* перабудовы. Бо ён у многім залежыць ад ломкі бюракратычнай сістэмы. А між тым становіцца відавочным імкненне вярнуць у берагі і абвалаваць стыхію, а на справе — абуджаную ініцыятыву і, *няйначай, узвышаныя пачуцці народа,* дазволіўшага сабе мітынгаваць і патрабаваць ад чыноўнікаў то літасці да ракі Прыпяць, то чысціні паветра і вады ў Наваполацку, то спынення разбурэння помнікаў архітэктуры метрабудаўцамі,

(Працяг на стар. 8).

# Пленум праўлення Саюза пісьменнікаў БССР

## Выступленне кандыдата медыцынскіх навук Валянціна ГРЫЦКЕВІЧА

*(Ленінград)*

Я вельмі ўдзячны за запрашэнне на пленум, які абмяркоўвае надзённае пытанне пра суадносіны гісторыі народа і літаратуры, бо адлюстроўвае яно адметную рысу нашага часу — павышэнне зацікаўленасці гісторыяй. Чаму людзі так цягнуцца да гісторыі? Прычыны — у нарастанні пачуцця няўстойлівасці свету. А каб лепей трымацца на нагах, патрэбна пад імі глеба — у тым ліку і гістарычная. Яна патрэбна для абуджэння ў нашым чалавеку магчымасці развіцця ягонага вялікага творчага патэнцыялу. Каб выйсці з крызісу нацыянальнай самасвядомасці — а ён, як усе ведаюць, мае у нас месца, — пачынаюць разлічвацца з мінулым. Гэта з'ява агульнаеўрапейская (дарэчы, нашы гісторыкі зусім не бачаць Беларусі ў кантэксце агульнаеўрапейскім і міжнародным). Вось чаму ў ФРГ і Аўстрыі ідуць дэбаты наконт адказнасці за злачынствы 3-га рэйха, у ГДР — пра прускія і саксонскія традыцыі, так у СССР пераглядаюцца часы Сталіна. У нашага ж народа, у якога пазней за суседніх сфарміравалася нацыянальная самасвядомасць, гэтая зацікаўленасць асаблівая. Калі ў іншых еўрапейскіх народаў «белыя плямы» і «чорныя дзіркі» адносяцца да аднаго з перыядаў мінулага, у нас яны ахопліваюць ці не ўсё тысячагоддзе гістарычнага існавання Беларусі, яе народа.

У аснове зацікаўленасці гісторыяй ляжаць настойлівыя пошукі нацыянальнай самасвядомасці ў народа, які развіваўся паміж двума блізкімі па мове і большымі за яго народамі, з якімі беларусаў злучыў супольны гістарычны лёс. Аналагічнае ёсць толькі ў македонцаў (між балгарамі і сербамі). Нашаму народу пагражала да рэвалюцыі культурная асіміляцыя, бо пры эксплуататарскіх ладах у аднаго з суседніх народаў раней за беларусаў стварылася моцная духоўная культура, а ў другога — і моцная духоўная культура, і мацнейшая дзяржаўная ўлада. Людзям хочацца ведаць, чаму беларусы, рэстаўрыраваўшы дзяржаўнасць пасля Кастрычніка, атрымаўшы яе ў сацыялістычным выглядзе, паступова страчвалі не толькі сваю мову, але і другую галоўную рысу этнаса — гістарычную самасвядомасць.



П. Макаль, А. Сульянаў, І. Чыгрынаў.

У аснове адлучэння народа ад мовы і ад свайго гістарычнага мінулага адны карэнні — адміністратыўная сістэма. Наша гістарычная навука ў выніку аказалася непатрэбнай беларускаму народу. Ёсць, праўда, людзі, якія аказвалі гонар навуцы (да прыкладу, Мікола Улашчык), але гэтыя выключэнні пацвярджаюць правіла: поўную адарванасць гістарычнай навукі ад запатрабаванняў і гісторыкаў-практыкаў (настаўнікаў, экскурсаводаў, музейшчыкаў), і агульнай масы чытачоў — парушэнне зваротнай сувязі, якая з'яўляецца абавязковай умовай існавання сістэмы, у дадзеным выпадку — гістарычнай сістэмы. Супастаўце падручнік па гісторыі БССР для школ з тым, як апісваюць гэты ж час пісьменнікі. Літаратура апярэдзіла гістарычную навуку. Незалежнасць празаікаў — В. Быкава, У. Караткевіча, Э. Ялугіна, Л. Дайнекі, В. Іпатавай ад афіцыяльных гісторыкаў — пацверджана іх творамі.

Адсутнасць дыскусій у навуцы прывяла да манапалізму асобных гісторыкаў. У сваіх «ведамствах» людзі баяцца выказаць крытычную думку. Да чаго прывяло манапольнае права акрэсленага кола гісторыкаў на апошнюю ісціну ў навуцы (у тым ліку і на стварэнне падручнікаў для ВНУ і школ), добра вядома.

Вопыт вывучэння развіцця гістарычнай навукі ў БССР паказвае, што калі яна цесна звязваецца з бягучай палітыкай, гэта шкодзіць і гісторыі, і палітыцы. Набываючы ахоўніцкія функцыі, гісторыя робіцца самааддаленай ад сваіх навуковых вартасцей, бо калі вынік вядомы, дык навошта вывучаць крыніцы. У выніку — наша гістарычная навука не вывучае галоўныя, адказныя напрамкі. Я скажу, што нам вельмі патрэбен поўны разбор аналітычных прац Маркса, Энгельса, Леніна аб Беларусі, бо адсутнасць яго адчувальная.

Прычынай нашага сённяшняга стану з'яўляецца і адсутнасць методыкі крыніцазнаўства, якое служыць ключом да гісторыі, яе ў свой час нават і не вывучалі. Да гэтага прывяла і адсутнасць аналітычнага гістарыяграфічнага агляду сучаснай — усёй без выключэння — літаратуры.

Нам патрэбна комплексная і цэласная карціна нашага мінулага, якую трэба сумленна ўсім рабіць. Як казалі калісьці: «Уцякайце ад тых, хто праўду ўжо знайшоў, а ідзіце за тымі, хто яе шукае».

## Выступленне Алега ЛОЙКІ

Шырокае ты, эпічнае поле гісторыі народа нашага беларускага!.. Быліны, як вядома, любілі вобраз чыстага поля, у яго выпраўляючы сваіх герояў. Ды *быліннае чыстае поле было* не пустым полем, якім нашу гісторыю хацелі б бачыць некаторыя. Не толькі вульгарны сацыялагізм адбіраў у нас гісторыю (гісторыя народаў СССР да 1934 года ў СССР не выкладалася),—адбіраў як свой лад і культ асобы і застойны перыяд, узор якога давала «Полымя» нядаўніх часоў.

Што ж адышло ў нябыт? Адышло трацкісцкае ў сваёй сутнасці татальнае адмаўленне цікавасці да нацыянальнага мінулага, якую белапаўцы лічылі крыміналам, друкуючы нібы ад імя Янкі Купалы 14 снежня 1930 года ў газеце «Звязда» «Адкрыты ліст Янкі Купалы» з лозунгавым клічам: «...Праступна ўваскрашаць мінулае...» Балюча і крыўдна згадваць такое!

Трыццатыя гады, спяваючы культаўскія песні, спадчыны асабліва не ўваскрашалі. Уваскрасіў 41-ы год. У паэме П. Броўкі «Беларусь» дакляравалася памяць Грунвальда, Дзмітрыя Данскога — героя старабеларускай рэдакцыі «Задоншчыны». Ды ці далёка наперад пайшлі мы ад агульнадэкларатыўных выбарчых згадак з мінулага, хоць і займелі надзвычайны пісьменніцкі подзвіг У. Караткевіча? Асабліва не *пайшлі і перадусім* з-за немажлівасці спробы ў даперабудовачных абставінах пераадолець культаўскую канцэпцыю гісторыі.

Вульгарны сацыялагізм забіраў у нас гісторыю агулам і па частках. Па частках, калі Ф. Скарыну *аб'яўляў манахам*-цемрашалам, калі толькі дзеячаў праваслаўнай царквы аб'яўляў патрыятычнымі, перадавымі, калі ледзь не аднаго толькі Вашчылу з-за яго сацпаходжання з нізоў пакідаў нам у нацыянальныя героі. Увогуле вульгарызм дэгераізаваў і аглупляў гісторыю, як мог, у той час, калі эпічнае поле гісторыі не можа не быць не гераічным, у той час, калі без героікі не бывае ні перамог, ні паражэнняў. Ды хто з нас асабліва ведае сёння пра герояў нашай гісторыі года 1481 — пра слуцкага князя Міхаіла Алелькавіча, пра князёў Фёдара Бельскага і Івана Гальшанскага, пра герояў барацьбы з крымскімі татарамі, пра герояў Лівонскай вайны — не з боку Івана Грознага, а з боку Вялікага княства Літоўскага?

*Мы* — нашчадкі герояў «Слова пра паход Ігаравы». Наша ваяцкая гісторыя сярэдневякоўя як бы ў «вілцы» паміж «Словам» і «Жаўнерскай песняй» касінераў Т. Касцюшкі. Ды героі нашай сярэдневяковай гісторыі — не толькі паўстанцы - сяляне, казакі родам з Беларусі, але і служылы сярэдневяковы люд — шляхціц, а то і магнат, калі апошні быў рыцарам высакароднага мяча. Вульгарныя ж сацыёлагі выкінулі з нашай нацыянальнай гісторыі славу высакароднага, абарончага і караючага за каварства беларускага мяча, і мы пераможцу ў бітвах князя Канстанціна Астрожскага не лічым сваім гераічным продкам, дні перамогі над агрэсіўнымі крымчакамі пад Клецкам і на Прыпяці не лічым сваімі святамі, як і дзень Грунвальда, паэтызуючы які ў паэме «Пруская вайна» Ян Вісліцкі з натхненнем апяваў і землякоў сваіх вояў-альбарусінаў. А сапраўды, да якога часу не будзе гордасцю нашай гісторыі магнат Леў Сапега — выдатны военачальнік, бліскучы публіцыст, рэдактар трэцяга Статута (1588), які, як даўно пра гэта пісаў Язэп Юхо, дэмакратызмам сваіх ідэй апярэдзіў французскіх асветнікаў-энцыклапедыстаў больш чым на паўтара стагоддзя?

Слова «унія», як вядома, у перакладзе з лацінскай азначае «саюз». У Савецкім Саюзе як жа нам не азірацца на нашых продкаў, што саюзу, «злюбу» народаў шукалі яшчэ ў сярэдневякоўі?!. Крэўская унія (1385) — адна з першых здзейсненых у Еўропе, яна не распалася, як Кальмарская, даўшы ў выніку больш гістарычна светлага, чым унія Англіі з Шатландыяй. Крэўская унія — пралог да перамогі пад Грунвальдам. Крэўская унія — падняты шлагбаум у Рэч Паспалітую — краіну шляхецкіх вольнасцяў, на якую як на ўзор дзяржавы глядзеў гуманіст Эразм Ратэрдамскі. Думаю, што вопыт Рэчы Паспалітай, як феадальнай дваранскай дэмакратыі, для нашага перабудовачнага часу дарэчы. Сёння, калі мы вучымся жыць пры сацыялістычнай дэмакратыі, павучымся ж і на горкім вопыце волі і сваволі дэмакратыі феадальна - шляхецкай.

Не лішнім, думаю, будзе сцвердзіць сёння, што Рэч Паспалітая была не рэспублікай двух народаў, як то прывыкла сцвярджаць польская гістарыя-

(Працяг. Пачатак на стар. 7).

то прывядзення ў санітарную норму ўтрымання нітратаў і іншых ядавітых рэчываў у прадуктах харчавання і зноў жа вадзе...

Нас трывожыць перабудова, якой няма і, дадам, не будзе — пакуль на адказных пасадах будуць сядзець людзі, зусім абыякавыя да яе або варожыя ёй. Пакуль яны будуць займаць ключавыя пазіцыі.

**У. Дамашэвіч:** Ні адзін геній не можа быць мудрэйшы за свой народ. Той, хто перастае раіцца з народам, адгароджваецца ад яго, ужо не разумее свайго народа. А той, хто ідзе супраць *жаданняў народа, рана* ці *позна* церпіць крах.

Сёння мы павінны з усёй адказнасцю перабудаваць свой дом, каб ён ад фундамента да самага даху быў трывалы, светлы і прыгожы, мы павінны ачысціць яго ад бруду дзесяцігоддзяў. Адным з самых ганебных рэцыдываў таго часу засталося няправільнае, скасабочанае паняцце нацыянальнага патрыятызму, які ўвесь час называлі нацыяналізмам.

Мы ўжо рэабілітавалі з вялікімі цяжкасцямі такіх выдатных дзеячаў Беларускай Савецкай дзяржавы, як Змітро Жылуновіч (Цішка Гартны), Чарвякоў, Галадзед, Гікала і інш., мы рэабілітавалі мо сотню беларускіх дзеячаў культуры, навукі, літаратуры, але мы не рэабілітавалі яшчэ нашай мовы, якая ў перыяд сталінскага беззаконня была растаптана, *дэфармавана і аплёвана*. Абысці гэта пытанне — значыць, праігнараваць не толькі думку нашай грамадскасці, але і далейшы лёс нашага народа, бо калі гіне мова, то гіне і народ. Гэтую простую ісціну мы павінны данесці да самых глухіх куткоў нашай рэспублікі і да людскіх сэрцаў. Калі мы гэтага не зробім, мы не выканаем сваёй місіі, якая на нас ускладзена жыццём, абавязкам перад народам, яго лёсам і яго гісторыяй. У вачах наступных пакаленняў мы паўстанем кучкай безгалосых рабоў, якія заслужылі *толькі пагарду*, бо ў зорны час сваёй гісторыі не сталі сцяной і не даказвалі сваёй відавочнай праўды.

**М. Арочка:** Сёння на нашых вачах адбываецца вялікі працэс, які можна назваць адраджэннем. Адраджэннем, якое яшчэ толькі «праклёўваецца».

У нас яшчэ жыве тая псіхалогія адносін да Беларусі, як да «забранага краю», пра што гаварыў некалі Купала. Але ж мы павінны супрацьстаяць ёй!

Успомнім спрэчку між бацькам і сынам Багдановічамі. Бацька лічыў сына адступнікам. Але сталася наадварот. У асобе Максіма Багдановіча адбывалася вяртанне чалавека праз пакаленне свайму народу, сваёй нацыі. Такое часам бывае і сёння. Але я вось што думаю: Адам Багдановіч быў вельмі разумным чалавекам (нездарма яго высока цаніў М. Горкі), і калі ён адгаворваў сына *ад беларушчыны, то, можа, прадбачыў будучае?*

**У. Конан:** Гістарычным лёсам народа, як відаць, наканавана беларускай літаратуры турбавацца аб усіх яго грамадскіх справах — эканамічных, сацыяльных, культурных. Складваецца ўражанне, што за апошнія пяць гадоў ёй проста не было часу і магчымасці засяродзіць увагу на сваіх уласных, мастацка-эстэтычных праблемах. Сёння ў фокусе рэспубліканскай літаратурнай арганізацыі — мова і гісторыя народа. Зусім відавочна, што без выратавання нацыянальнай мовы, без упэўненасці ў тым, што яе будучыня гарантавана, немагчыма нармальнае развіццё літаратуры, як, дарэчы, і іншых відаў мастацкай культуры.

Прыпамінаецца леташні дыскусійны артыкул Леаніда Дранько-Майсюка «Як і «навошта»?» Гутарка ішла, напомню, аб тым, што неабходна дбаць пра дасканаласць мастацкай формы і наогул эстэтычную каштоўнасць сучаснай прозы. Пазней крытыкі, ды й сам пачынальнік дыскусіі крыўдавалі на сваіх калег, што яны ўхіліліся ад сур'ёзнай гаворкі, як быццам іх не турбуе небяспечная тэндэнцыя да зніжэння эстэтычных крытэрыяў у сучаснай літаратуры. Але ж яшчэ ў 1913 годзе ў падобнай сітуацыі Янка Купала сказаў свайму апаненту: *«Не да пацераў, калі хата гарыць!»* Сапраўды, ці не занадта вялізны груз узвальвае грамадства на сваю літаратуру, сваіх пісьменнікаў? Чаму моўны крызіс у рэспубліцы турбуе толькі пісьменнікаў, літаратуразнаўцаў (на жаль, не ўсіх), толькі частку мастакоў і толькі пасобных кампазітараў? Чаму маўчыць Акадэмія навук (за выключэннем асобных яе супрацоўнікаў)? Чаму не турбуе гэтая праблема Вярхоўны Савет рэспублікі, гарадскія, раённыя і сельскія Саветы? Хіба ж развіццё нацыянальнай культуры не з'яўляецца адной з самых важных функцый дзяржавы? У рэшце рэшт, літаратура можа толькі ставіць праблемы, а вырашаць іх павінна ўсё грамадства і найперш яго дзяржаўныя органы.

**А. Карпюк:** Памятаю, я аднойчы ехаў у адным купэ з дэпутаткай, якая вярталася з сесіі. Я спытаў: што было цікавага на сесіі? «У буфеце былі апельсіны»,— адказвае. Я, разумеючы, што ў кабеты, пэўна, дзеці, спытаў: «А яшчэ што?» — «Былі кітайскія кофтачкі, але мне не хапіла». Вось вам прыклад, якія былі дэпутаты. І яны вырашалі наш лёс, лёс нашай мовы, нашай культуры.

 

графія, а, па крайняй меры, — чатырох: польскага, літоўскага, беларускага, украінскага, а яшчэ і меншасцяў — татар, яўрэяў, караімаў. Рэч Паспалітая, такім чынам, спадчына шэрагу народаў, хоць і была яна спараджэннем Кароны Польскага Каралеўства. Такім чынам, гісторыя Рэчы Паспалітай — і наша гісторыя, гісторыя і беларусаў, і мы павінны толькі ганарыцца, што нашы продкі ўнеслі свой уклад у развіццё такой перадавой для свайго часу формы дзяржаўнага ўладкавання.

## *Выступленне Уладзіміра КАЗБЕРУКА*

Вялікі Кастрычнік даў нам, беларусам, можа, больш, чым каму-небудзь іншаму. Слова «беларус» вядома ва ўсім свеце, яно гучыць горда. Мы маем права ганарыцца нашымі здзяйсненнямі ў эканоміцы, навуцы, літаратуры, якая сёння нясе шчодры дар сусветнай культуры. І тым не менш мы з трывогай глядзім на перспектывы развіцця нашай нацыі. І падстаў для гэтага хапае. Я закрану некаторыя пытанні асэнсавання нашай гісторыі XX стагоддзя. Па гэтым перыядзе з'яўляецца нямала публікацый. Але ў некаторых з іх мы знаходзім фальсіфікацыю гістарычнага працэсу.

Класічным прыкладам падтасоўкі гістарычных фактаў можа служыць артыкул «Людзі з мінулага», апублікаваны адначасова ў «Звяздзе», «Советской Белоруссии», «ЛіМе» і нават у вільнюскай газеце «Tiesa». Гэты артыкул можна было б забыць, калі б на яго так часта ў нас не спасылаліся ў друку як на вялікай важнасці дакумент.

Вось некалькі цытат з каментарыямі. «Беларускія буржуазныя нацыяналісты, якія знайшлі прыстанішча ў краінах Захаду, пад апекай ЦРУ робяць спробы рэаніміраваць і падняць на шчыт такіх дзеячаў, як В. Ластоўскі, Р. Астроўскі, Я. Лёсік, Ф. Акінчыц. Але што з іх, нацыяналістаў, возьмеш? Здраднікі праслаўляюць здраднікаў — ваенных злачынцаў, прыслужнікаў фашысцкіх акупантаў».

А цяпер звернемся да фактаў. Язэп Лёсік у пачатку 20-х гадоў, як і многія іншыя, прызнаў Савецкую ўладу, пераехаў у БССР, працаваў, стаў акадэмікам і нязменным сакратаром АН БССР. Савецкая ўлада, дазваляючы ім пераехаць у БССР, ведала, чым яны займаліся ў перыяд грамадзянскай вайны. Але даравала ім, даючы магчымасць працаваць на ніве роднай культуры, літаратуры, навукі. Іх не стала ў 1938 годзе. На звычайнай чалавечай мове такія паводзіны называюцца вераломствам. Тых, хто іх запрашаў і дазваляў пераехаць і працаваць, мы вініць не можам, бо яны самі былі знішчаны.

Сёння наша партыя, наш урад змагаюцца за ўмацаванне міжнароднага ўзаемаразумення, узаемнага даверу. А вось некаторыя праслаўляюць вераломства як палітычную лінію паводзін, як прынцып узаемаадносін.

Пойдзем далей. Людзей, знішчаных у 1938 г., аб'явілі прыслужнікамі нямецка-фашысцкіх захопнікаў. А «Советская Белоруссия» дык нават паведаміла што Ластоўскі і Лёсік сёння служаць ЦРУ! Недзе разгортваецца перабудова, недзе маштабнае абнаўленне ўсіх сфер жыцця, у тым ліку і ідэалогіі. А ў нас?.

Пачытаем артыкул далей. «...У некаторых беларускіх выданнях і ў прэсе ўпамінаецца імя Антона Луцкевіча.

Калі так, то ўспомнім аб гэтым чалавеку ўсю праўду. Ён, напрыклад, разам са сваім братам Іванам быў стваральнікам і членам ЦК дробнабуржуазнай Беларускай сацыялістычнай грамады. Потым актыўна супрацоўнічаў у вядомай газеце «Наша Ніва», дзе прапагандаваў «класавы мір» у беларускай вёсцы. Гэта значыць, жадаў, каб памешчыкі захоўвалі свае вялікія маёнткі, а вясковая бедната заставалася ў галечы і мірылася з эксплуатацыяй».

Як гэта «ўся праўда» выглядае ў святле рэальных фактаў? Вось мы чытаем у газеце «Наша Ніва» (1914, № 11—12) у артыкуле Антона Луцкевіча «Пуцяводная ідэя»: «...У праграмах нашага нацыянальнага адраджэння нацыянальнае вызваленне беларусаў лучылася з самых першых дзён з вызваленнем эканамічна-сацыяльным. Вось чаму беларускі рух зразу жа стаўся рухам дэмакратычным: ён абыймаў усё жыццё працоўнага беларускага народу — ва ўсіх яго праявах...

Аднак з развіццём руху — між працаўнікамі на глебе народнай пачалі аб'яўляцца людзі, для каторых нацыянальная справа не лучылася болей са справай дэмакратызму. Яны, ганяючыся за чыста нацыянальнымі ідэаламі, не бачуць слёз і гора працоўнага народу, не чуюць таго крыку, што рвецца з набалелых грудзей гаротніка: «хлеба!».

На мове аўтара артыкула «Людзі з мінулага» гэта — патрабаванне да вясковай беднаты, каб яна заставалася ў галечы і мірылася з эксплуатацыяй.

І апошні штрых. У верасні 1939 г. пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі Антон Луцкевіч пісаў у артыкуле «Цяжкім быў лёс працоўнага беларуса»:

«Польскія паны дваццаць год паланізавалі беларускую культуру. Зараз ярмо панскага гнёту і нацыянальнага парабашчэння скінута назаўсёды. Зноў Беларусь стала адзінай. Ніякія межы больш не будуць падзяляць адзіную родную беларускую зямлю. У дружбе будуць жыць працоўныя беларусы.

Стварэнне адзінай свабоднай Савецкай Беларусі адкрые для беларускай культуры шлях шпаркага развіцця ўперад. Не будзе больш працоўны беларус застрашацца турмой і бесчалавечнымі здзекамі». («Віленская праўда», № 4, 26 верасня 1939 г.).



А. Асташонак, Р. Баравікова, М. Тычына.

Хочацца сказаць пра аўтара артыкула «Людзі з мінулага» Мікалая Стэфанавіча Сташкевіча. Яго доля заслугі ёсць у тым, што мы агульнымі намаганнямі дабіліся права на публікацыю твораў Алеся Гаруна. Я неаднаразова гутарыў з М. С. Сташкевічам і пераканаўся, што ён добра ведае факты нашай гісторыі гэтага перыяду. Але, як відаць з яго публікацый, падганяе іх пад схемы, створаныя ў 30—40—50-я гады. А нявыгадныя факты замоўчвае, хавае.

Практычна атрымліваецца, што для некаторых людзей колішняя Савецкая ўлада ў Беларусі — гэта не Чарвякоў, не Кнорын, не Жылуновіч, не тыя, хто гэтую ўладу заваёўваў, абвяшчаў, абараняў, умацоўваў арганізацыйна-стваральнай працай, закладваў падмурак пад беларускую савецкую дзяржаўнасць. Іменна першыя кіраўнікі рэспублікі пасля перамогі ў грамадзянскай вайне прыцягнулі да стваральнай працы кадры беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі. Іх бяда і трагедыя ў тым, што рэпрэсіўная машына 30-х гадоў нішчыла без разбору ўсіх, у тым ліку і іх саміх, распраўлялася з заваёвамі Кастрычніка.

Бясспрэчна, і Ластоўскі, і Лёсік, і браты Луцкевічы, як і Тарашкевіч, і Бядуля, і многія іншыя шмат дзе блукалі папацемку, шмат што рабілі не так, як нам сёння хацелася б. Але настала пара пра ўсё гэта гаварыць спакойна, з развагай, панавуковаму, вывэрана — і пра іх пошукі, і пра іх хістанні ці заблуджэнні, але і пра іх заслугі. Нам варта ўспомніць, што ў 1916 г. пісаў У. І. Ленін, называючы канкрэтна ўкраінцаў і беларусаў: «защита отечества» еще может быть здесь защитой демократии, родного языка, политической свободы против угнетающих наций, против средневековья...» (т. 30, с. 89—90). І калі Ленін адзначаў прагрэсіўны характар нацыянальнага руху ў колішняй Беларусі, то мы не павінны забываць, што гэты рух быў звязаны з дзейнасцю людзей, якія аб'ядналіся ў свой час вакол газеты «Наша Ніва». А там былі не толькі Купала і Колас, Багдановіч і Бядуля, Гарэцкі і Гмырак, але і Ластоўскі, і браты Луцкевічы, і Уласаў. І незалежна і Ластоўскі, і Лёсік, і Антон Луцкевіч — кожны з іх сваім шляхам прыйшоў да прызнання Савецкай улады, гатоў быў уносіць уклад у развіццё нашай нацыянальнай культуры. І не віна іх, а бяда, што ім такой магчымасці не далі. Дык чаму ж мы і сёння, у эпоху перабудовы, не хочам ніяк прызнаць гэта?

Бунін не прызнаваў Савецкай улады да самай смерці, да 1953 г., але яго творы выдаюцца ў нас без усякіх абмежаванняў. А Ластоўскі ў нас і сёння забаронены. Каму робіць гонар такі дагматызм і закасцянеласць?

Мы сёння з'яўляемся ўдзельнікамі вялікага працэсу абнаўлення, аздараўлення. Хачу выказаць упэўненасць, што гэтага працэсу нікому ўжо не ўдасца затрымаць.



А. Карпюк, Я. Брыль, В. Адамчык.

# САЮЗ—АРГАНІЗАЦЫЯ ТВОРЧАЯ

«Выкананне рашэнняў IX з'езда пісьменнікаў Беларусі і шляхі перабудовы арганізацыйна-творчай дзейнасці Саюза пісьменнікаў БССР». Так сфармулявана другое пытанне пленума, даклад па якім зрабіў першы сакратар праўлення СП БССР Н. Гілевіч (гл. мінулы нумар «ЛіМа»). Якім быць нашаму творчаму саюзу, каб ён адпавядаў патрабаванням сённяшняга дня, — пра гэта і гаварылася ў другі дзень пленума.

Старшыня рэвізійнай камісіі СП Беларусі **В. Рагойша** спыніўся як на станоўчых, так і на адмоўных момантах пасляз'ездаўскай дзейнасці саюза. У прыватнасці, ён сказаў:

— Увесь дух з'езда пісьменнікаў БССР, які адбываўся ў атмасферы XXVII з'езда КПСС, быў прасякнуты дэмакратызмам і галоснасцю. Здавалася, гэты дух не выветрыцца з кабінетаў Саюза пісьменнікаў, прынамсі, да наступнага з'езда. На жаль, там-сям пачаў выветрывацца, а вакуум стаў запаўняцца бюракратычным чадам застойнага часу.

Ці не пра гэта сведчыць той факт, што да сённяшняга дня сакратарыят так і не парупіўся выдаць калі не стэнаграму, то хаця б матэрыялы IX з'езда пісьменнікаў? Якая там галоснасць, калі з тым, што гаварылася, падчас вельмі грунтоўна і востра, на з'ездзе, могуць азнаёміцца хіба што самі сакратары. Бо скарочаны пераказ выступленняў пісьменнікаў у «ЛіМе» — гэта прыблізны адбітак думак і страсцей, якія луналі на з'ездзе.

За два апошнія гады, што прайшлі пасля з'езда, Саюз пісьменнікаў так і не стаў установаю, да якой усёй душою гарнуліся б пісьменнікі. Хоць нярэдка сакратары крытыкуюць работу секцый, і часам справядліва крытыкуюць, адчуваецца, што секцыі для іх, сакратароў, — як быццам лішні клопат: калі яны і бываюць на іх пасяджэннях, то літаральна забягаюць туды, сядзяць як на іголках, хутка рэціруюцца, спасылаючыся на іншыя, больш важныя, справы. А што можа быць важней у творчым саюзе, чым праца творчых секцый? Па сутнасці, дзеля арганізацыі і актывізацыі гэтай працы і існуе сам Саюз пісьменнікаў.

**Р. Баравікова** гаварыла пра тое, што беларускія пісьменнікі амаль не прадстаўлены ў рэдкалегіях усесаюзных часопісаў. Хто ж будзе адстойваць права на публікацыю вартых таго твораў? Усесаюзныя выданні застаюцца для нас практычна закрытымі.

Нам трэба скарыстаць права дэмакратыі і правесці тайныя выбары сакратароў саюза, сказала ў заключэнне Р. Баравікова.

Тую ж думку выказаў і **М. Тычына,** які выступіў з крытыкай у адрас кіраўніцтва СП БССР.

У нятворчай, затхлай — як і ў любой бюракратычнай установе — атмасферы нашага саюза задыхаецца літаратурнае жыццё, саюз перастаў аб'ядноўваць, кансалідаваць пісьменнікаў, зазначыла **Т. Бондар.**

Справа не ў асобах, а ў самой сістэме кіраўніцтва саюзам, у саміх арганізацыйных формах, сказаў у сваім выступленні **Г. Бураўкін.** Ён выказаў пажаданне, каб моладзь вучылася ў старэйшых, каб яе не адлучалі ад кіраўніцтва пісьменніцкай арганізацыі.

**В. Сёмуху** таксама хвалююць праблемы моладзі. Цяжка назваць якую-небудзь акцыю моладзі, якая б не натыкалася на зацятае супраціўленне бюракратычнага апарату, гаварыў ён. На жаль, нефармальны рух не знаходзіць падтрымкі ні ў камсамола Беларусі, ні ў дзяржаўным апараце, часткова і ў Саюзе пісьменнікаў. Большасць публікацый пра дзейнасць «Тутэйшых» і «Талакі» вытрымана ў духу Андрэевай. В. Сёмуха ў станоўчым плане адзначыў артыкул у «Советской Белоруссии» пра дзейнасць гродзенскай «Паходні» і выступленне «Знамени юности» пра «Талаку».

**М. Скобла,** прадстаўнік таварыства «Тутэйшыя», запэўніў прысутных, што члены гэтага аб'яднання ніколі не імкнуліся да канфрантацыі са старэйшымі пісьменнікамі. Ён расказаў пра «ўрок дэмакратыі», які атрымалі «Тутэйшыя» ад кіраўніцтва АН БССР (там мелася быць літаратурная вечарына).

У спрэчках выступілі таксама **У. Калеснік, У. Някляеў, В. Зуёнак, Я. Каршукоў, В. Гапава.**

Сакратар праўлення СП СССР **Ю. Сураўцаў** адзначыў як наватарскае аб'яднанне ў павестцы пленума двух важных пытанняў — гісторыі народа і аб дзейнасці творчага саюза. Унутрана гэтыя пытанні ўзаемна звязаны, хоць сувязь іх і не прамая. Далей ён сказаў:

— Беларуская пісьменніцкая арганізацыя ў пераходзе ад слоў да справы зрабіла многа. Але адначасова з выступленняў відаць, што мы знаходзімся ў становішчы нейкай слоўнай прабуксоўкі. Не знікла захапленне словам — вострым, крытычным. І яно патрэбна, але мы перайшлі да практычнага ажыццяўлення перабудовы. У гэтым сэнс і падрыхтоўкі да XIX партыйнай канферэнцыі, якая павінна даць новыя стымулы руху наперад. Мітынговы перыяд, характэрны для ўсялякай рэвалюцыі, ідзе на спад. Спецыфіку моманту трэба разумець.

У беларускіх пісьменнікаў шмат нястрымных эмоцый выклікае праблема белых плям у гісторыі літаратуры. Але не варта скардзіцца і чакаць дазволу, а лепш практычна займацца аднаўленнем добрых імён, станоўчага вопыту ў творчасці тых, чыя творчасць была супярэчлівай.

Прамоўца адзначыў злабадзённасць рамана А. Мрыя «Запіскі Самсона Самасуя».

З заключным словам выступіў Н. Гілевіч.



 

# Пленум праўлення Саюза пісьменнікаў БССР

## Выступленне Леаніда ЯЎМЕНАВА

Я прадстаўнік філасофскага цэха грамадскіх навук рэспублікі. Навукі, мяркую, вельмі непапулярнай у апошнія гады, асабліва ў дзвюх сферах—партыйнай і мастацкай. Сведчаннем гэтага з'яўляецца шматразовая татальная крытыка філасофаў і поўнае закрэсліванне іх працы многімі дзеячамі. Сведчаннем гэтага з'яўляецца і суровая крытыка вучоных філасофаў Беларускай акадэміі Боўша і Бегуна ва ўсесаюзным і рэспубліканскім друку прадстаўнікамі мастацтва і літаратуры.

Канечне, мае рацыю крытыка ў наш адрас, калі судзіць нашу прафесіянальную філасофію па выдадзеных у застойны перыяд працах. Сапраўды, у большасці выпадкаў яны прадстаўлялі сабой: 1) папулярызацыю партыйна-дзяржаўных дакументаў; 2) апісанне пазітыўных з'яў у грамадстве; 3) ухваленне і праслаўленне ўсяго існуючага без аналізу і крытыкі негатываў — ці карацей — апалагетыку існуючага становішча рэчаў.

Канечне, маюць рацыю і дзеячы мастацтва і літаратуры, што выказалі суровыя крытычныя заўвагі наконт публікацый у мінулым годзе памянёных вышэй філасофаў акадэміі. Галоўныя хібы іх публікацый вынікаюць з вельмі нізкай агульнай філасофскай, тэарэтычнай і метадалагічнай культуры іх логікі, іх канцэпцый, іх аргументаў.

Але дазвольце ўсім тут прысутным задаць пытанне: а хто ж вінаваты ў такім стане філасофскай навукі? Хто яе, логіку камунізму, алгебру рэвалюцыі, зрабіў пакорлівай служанкай бюракратыі, інструментам бяздумнай апалагетыкі існуючага, якім бы яно ні было? І не толькі яе адну — грамадазнаўства ў цэлым? Можа, самі вучоныя? Не! Сталіны, Хрушчовы, Брэжневы, іх ідэалагічнае асяроддзе. Ды той парадак, калі грамадазнаўцы ў існуючых выдавецтвах фактычна не маюць ніякіх правоў: нават самы малодшы рэдактарок выкручвае рукі спецыялісту, доктару навук, робячы з яго вызначэннямі і тэарэтычнымі формуламі ўсё, што яму ўздумаецца. Інакш кніга рызыкуе быць здабыткам толькі хатніх мышэй. Дарэчы, літаратарам падобныя становішчы рэчаў вядомы вельмі добра. Чаму ж не правяць формулы матэматыкаў, хімікаў, фізікаў? І абавязкова — філасофаў, гісторыкаў, палітэканомаў, юрыстаў? Вывады грамадазнаўцаў, як і літаратараў, могуць быць для некага вельмі небяспечнымі. Менавіта такія ўмовы і прывялі грамадазнаўства ў стан крызісу, сутнаснымі рысамі якога з'яўляюцца апісальнасць і апалагетызм яго большасці даследаванняў.

У сувязі з гэтай гаворкай нельга не звярнуць увагу на адну думку сакратара Мінскага гаркома партыі, кандыдата гістарычных навук П. К. Краўчанкі, якую ён выказаў у 4 нумары «Политического собеседника». Тав. Краўчанка ўспамінае той час, калі ўсе работы грамадазнаўцаў пелі хвалу так званаму «развітому сацыялізму», калі яны ўсе абыходзілі негатыўныя працэсы ў грамадстве, ён крытыкуе грамадазнаўцаў за тое, што яны публічна не прызналі сваёй навуковай няздольнасці і не адмовіліся ад сваіх кніг, артыкулаў, дысертацый, дыпломаў. Але дазвольце запытаць шаноўнага Пятра Кузьміча, хто б з вас дазволіў у той час выхад такіх кніг і артыкулаў, дзе б даваліся адмоўныя характарыстыкі канцэпцыі «развітога сацыялізму»? Якое б выдавецтва ці часопіс іх надрукавалі? Можа, «Навука і тэхніка»? Ці «Беларусь»? Ці, можа, часопіс «Коммунист Белоруссии»?

Напрошваецца вывад, што крытыка ў адрас савецкіх філасофаў, грамадазнаўцаў за крызіснае становішча іх навукі патыхае часам дэмагогіяй.

Хаця я не магу тут не дадаць, што без перадавых ідэй грамадазнаўцаў, філасофаў у тым ліку, не было б сёння ні новага мыслення, ні перабудовы. Нягледзячы на перашкоды, нам удавалася не раз правесці ў жыццё творчыя думкі, а тое, што не друкавалася, кіруючыя органы атрымлівалі вельмі часта ў выглядзе закрытых рабочых запісак і рэкамендацый. У сваіх лекцыях перад людзьмі пераважная большасць з нас гаварыла праўду, заклікаючы думаць і дзейнічаць.

Агульны лёс у літаратараў і навукоўцаў, агульная віна перад духоўным патэнцыялам народа. Таму, мяркую, і агульныя просьбы да кіраўніцтва. Першае: дапамажыце стварыць такія ўмовы, каб нам не заміналі пісаць, дапамажыце нам зняць путы абразлівай малапісьменнай рэдактуры і фактычнага бяспраўя ў выдавецтвах. Зрабіце гэта, і наша грамадства будзе мець выдатныя грамадазнаўчыя ленінскія даследаванні і яшчэ больш выдатную мастацкую літаратуру. Толькі пры такіх умовах гэтыя дзве галіны народнага духу дадуць магутныя рычагі далейшага развіцця сацыялізму.

Другая просьба. Шаноўныя таварышы кіраўнікі, хутчэй авалодвайце новым палітычным і ідэалагічным мысленнем, ленінскай дыялектыкай, г. зн. алгебрай рэвалюцыі, алгебрай рэвалюцыйнай перабудовы. Гэта дасць вам магчымасць не толькі граматна кіраваць працэсам перабудовы, не толькі лепш разумець сваю інтэлігенцыю, гэта дасць вам магчымасць усё менш абапірацца на людзей, што не адышлі ад кансерватызму мыслення і дзеяння.

Усё сказанае, таварышы, дае мне падставу сказаць, што няма сёння ніякай карысці вучоным і літаратарам і нашым кіраўнікам абвінавачваць адзін аднаго. У нас агульны лёс, агульныя хібы, агульныя праблемы.



А. Васілевіч, В. Вітка.

Фота Ул. КРУКА.

## Выступленне загадчыка аддзела культуры ЦК КПБ Я. К. ВАЙТОВІЧА

Размова на гэтым пленуме — хоць часам яна была эмацыянальнай, страснай — паказала, наколькі вострымі і актуальнымі з'яўляюцца сёння пытанні адносін да гісторыі, развіцця гістарычнай навукі, фарміравання гістарычнай свядомасці народа. Зразумелая ваша заклапочанасць гэтымі праблемамі. Неабыякава адносіцца да іх і партыйнае кіраўніцтва рэспублікі.

Асабліва ўважлівых адносін да сябе патрабуе праўда гістарычная і праўда мастацкая. Бо ў цяперашні час ідзе інтэнсіўны працэс узаемапранікнення гісторыі ў літаратуру і наадварот. У гэтых умовах важна аб'яднаць намаганні гісторыкаў і пісьменнікаў, знайсці кропкі судакранання, сумеснага прыкладання сіл. Для карысці справы патрэбны не канфрантацыя і ўзаемныя абвінавачванні, нават калі ў некаторых момантах пісьменнікі і апярэджваюць гісторыкаў.

Заклікаючы вас да кансалідацыі, я, безумоўна, не заклікаю да уніфікацыі думак і ацэнак. Яны могуць і павінны быць рознымі.

Каб не быць падобнымі да Іванаў без роду і племені, важна без ачарнення і прыхарошвання ведаць сваю гісторыю. У гэтых адносінах нас з вамі чакае велізарная работа. Не заклікаючы да спешкі, у выніку якой можна наламаць дроў, хацелася б усё ж, каб нашы гісторыкі не займалі і пазіцыю чакання. Запоўніць «белыя плямы», аднавіць гістарычную справядлівасць, пераадолець дэфармацыі ў фарміраванні гістарычнага мыслення людзей — найпершы абавязак гісторыкаў і пісьменнікаў.

А пакуль у нас складваецца некалькі парадаксальная сітуацыя. З аднаго боку — у атрадзе гісторыкаў каля 1200 вучоных, сярод якіх 74 дактары і 600 кандыдатаў навук. З другога — сапраўдны голад на гістарычныя публікацыі, на выступленні па радыё і тэлебачанні па хвалюючых людзей праблемах. Часта гісторыкі ў вусных дыскусіях і ў друку аказваюцца на другіх ролях, не могуць аператыўна і ў даступнай, доказнай форме выкласці свой пункт гледжання. Не заўсёды могуць яны з дапамогай гістарычных фактаў адстаяць сваю пазіцыю і пераканаць аўдыторыю. Аналагічная сітуацыя склалася на гэтым пленуме, дзе большасць выступленняў гісторыкаў былі малапераканаўчымі і недастаткова аргументаванымі.

Сур'ёзным прагалам з'яўляецца адсутнасць абагульняючых прац па такіх праблемах, як фарміраванне беларускай народнасці і нацыі, гісторыя культуры, удзел народных мас Беларусі ў трох расійскіх рэвалюцыях. Патрабуюць глыбокага навуковага вывучэння сацыяльная структура савецкага грамадства, ажыццяўленне ленінскай нацыянальнай палітыкі і функцыяніраванне нацыянальна-рускай двухмоўнасці.

Калі гаварыць пра новыя напрамкі ў галіне гісторыі, то гэта ўзмацненне ўвагі да вывучэння пытанняў духоўнага жыцця ў адносінах да ўсіх перыядаў гісторыі Беларусі. Цяпер пад эгідай АН БССР дзейнічае рэспубліканская комплексная навукова-даследчая праграма «Культура». Састаўной часткай яе з'яўляецца падрыхтоўка новых арыгінальных прац па гісторыі нацыянальнай культуры.

Як бачым, задачы і перспектывы перад гісторыкамі Беларусі сур'ёзныя. Я лічу, што яны ў значнай ступені датычаць і літаратараў. Таму што асэнсаванне новага матэрыялу, стварэнне твораў на гістарычную тэму — гэта і ваш вялікі клопат. Аднак важна тое, што з мастацкай практыкі не знікала цікавасць да таго, хто мы такія, адкуль пайшлі, дзе нашы вытокі. На пленуме называліся многія прозвішчы і творы. Не буду паўтарацца.

Значную заклапочанасць грамадскасці, у тым ліку і пісьменніцкай, выклікае ў апошні час захаванне помнікаў гісторыі і культуры. Думаю, вы згодзіцеся са мной, што няправільна было б сцвярджаць, быццам у рэспубліцы нічога не робіцца ў гэтым кірунку. Аднак трэба самакрытычна прызнаць, што гэтаму пытанню доўгі час усё ж не ўдзялялася дастатковай увагі. Былі і няправільныя падыходы, і прамыя памылкі. Многія з іх атрымалі адпаведную партыйную ацэнку.

Гісторыя і літаратура заклікаюць выхоўваць пачуццё патрыятызму, нацыянальнай годнасці, але адначасова і працаваць на нашы агульныя інтэрнацыянальныя інтарэсы.

## У СЯМ'І ВОЛЬНАЙ, НОВАЙ

Гэтыя прарочыя словы з неўміручага «Запавіту» вялікага Кабзара сталі назвай Усесаюзнага Шаўчэнкаўскага свята, якое традыцыйна адзначаецца літаратурнай грамадскасцю, усім украінскім народам разам з гасцямі з братніх рэспублік і сацыялістычных краін кожнай вясной.

Адзначаецца вясной невыпадкова, бо ў маі 1861 года надоўга адлучаны царскім загадам ад сваёй зямлі Тарас Рыгоравіч Шаўчэнка назаўсёды вярнуўся на родную Украіну. Вярнуўся пасля смерці, каб згодна свайму паэтычнаму запавету быць пахаваным каля Канева на Чарнечай гары, што велічна ўзвышаецца над Дняпром.

Сёлета ўдзельнікаў свята з 12 па 15 мая гасцінна сустракаў Харкаў. І хоць Кабзар за сваё нядоўгае шматпакутнае жыццё не змог пабыць тут, але яго палымянае, праўдзівае слова праклала сцежку да сэрцаў людзей Слабажаншчыны. Мы — Вольга Іпатава і аўтар гэтых радкоў — змаглі пераканацца ў тым, калі прысутнічалі на ўрачыстым адкрыцці свята ў Палацы культуры і тэхнікі электрамеханічнага завода, наведалі Рэспубліканскую выставу «Маляўнічая Украіна», пабылі на прадпрыемствах, ВНУ, школах, у бібліятэках, кнігарнях горада.

Шаўчэнкаўскае свята праводзіцца з душой, гэта не адно з чарговых мерапрыемстваў, а сапраўды ўсенароднае ўшанаванне слова і памяці геніяльнага паэта. У канцэртных і выставачных залах, палацах і дамах культуры, парках і кінатэатрах вобласці праводзіліся Дні выяўленчага мастацтва, народнай творчасці, у Доме акцёра — конкурс вакалістаў і чытальнікаў на лепшае выкананне твораў Т. Р. Шаўчэнкі, у школах і прафесіянальна-тэхнічных вучылішчах — Шаўчэнкаўскія ўрокі.

На Украіне ведаюць, любяць і нашчадкаў Кабзара — выдатных сучасных паэтаў. Запомнілася, як засяроджана, з павагай услухоўвалася ў мудрае слова Барыса Алейніка 150-тысячная грамада, якая сабралася ў гарадскім садзе каля выдатнага помніка Т. Р. Шаўчэнку, як чуйна рэагавалі слухачы на ўсхваляваныя выступленні Івана Драча. Радасна было бачыць, як на канцэрце, пасля выканання песні «Два колеры» А. Білаша на словы Дзмітра Паўлычкі, слухачы літаральна засыпалі паэта гваздзікамі і ружамі.

Вечарам 15 мая ў час закрыцця Усесаюзнага Шаўчэнкаўскага свята на вуліцы, здаецца, выйшаў увесь Харкаў. У небе над горадам расцвіў феерверк у гонар слаўнага сына ўкраінскага народа, чыё слова будзе жыць, пакуль «будуць людзі на зямлі».

Свае кароткія нататкі хачу закончыць вершам.

### СВЯТАЯ СЛЯЗА

Тарасу ШАЎЧЭНКУ

**А паэт нарадажаецца не з драбязы,**
**Боль народа — ягонае песні аснова.**
**І прачнецца душа ад святое слязы,**
**Каб для ўсіх выкрасаць запаветнае слова.**

**Ён сумленне і веру бярэ ў дружбакі,**
**І нішто апантаных з дарогі не зверне.**
**Расхінае Кабзар гонкай думай вякі,**
**Сее волі і праўды мяцежнае зерне.**

**Зерне важнае тое вятры не змялі,**
**Не засохла яно і на камень не ўпала.**
**За даламі, лясамі ў суседняй зямлі**
**Вырас Колас, да зор дацягнуўся Купала.**

**Мы адтуль — з шэрых світак, з рудых кажухоў.**
**Скрозь гады бачу я, новым днём гадаваны,**
**Скрывянелы сувой гайдамацкіх шляхоў,**
**Між тапаляў сірочую хустку Мар'яны.**

**Лучыць долю і шчасны, і ўгнеўлены час,**
**Мо таму сэрца з сэрцам спагадней гаворыць,**
**Што аднолькава стыне на вуснах у нас**
**Непазбытай бяды палыновая горыч...**

**Як далёка з Чарнечае стромы відаць!**
**Мне Дняпро, нібы лёс, у сусвет прад вачыма.**
**І душу, як наказваў Кабзар, нам аддаць**
**Не шкада за святую слязу — за Айчыну.**

**Сяргей ЗАКОННІКАЎ.**

Барыс САЧАНКА

# БЭНДЭ

## 30-я ў абліччах і дакументах

## II

У краіне пасля перамогі Вялікага Кастрычніка — у тым і адно з адрозненняў сацыялістычнай рэвалюцыі ад буржуазнай, што буржуазная рэвалюцыя канчаецца захопам улады, а сацыялістычная гэтым пачынаецца — увесь час ламалася, бурылася старое, аджылае, закасцянелае, што дасталося ў спадчыну ад капіталізму, царызму. Усюды, ва ўсім закладваліся асновы, падмуркі новага—у эканоміцы, адносінах між людзьмі, культуры і быце... Вялася барацьба з непісьменнасцю, з рэшткамі розных банд, з так званымі «буржуазнымі спецамі»... У 1928 годзе ў Маскве слухаецца небывалая па масавасці замешаных у ёй Шахцінская справа. Пачалася калектывізацыя, раскулачванне і высылка кулакоў, «цвёрдазаданнікаў»... На старонках «Савецкай Беларусі» і «Звязды» вялася шырокая дыскусія па пытаннях развіцця тэатра і кіно, і ніхто не баяўся выказваць шчыра тое, што думае,—існавала ж не на словах, а на практыцы ленінскае разуменне галоснасці і дэмакратыі, ды і пытанне ж было вельмі важнае — па якіх шляхах павінна пайсці развіццё беларускай культуры. Выказваліся розныя, самыя супярэчлівыя, нават супрацьлеглыя думкі. Т. Глыбоцкі, напрыклад, выступіў у «Савецкай Беларусі» супраць пастаноўкі на сцэне ў Першым беларускім дзяржаўным тэатры п'есы У. Іванова «Бронецягнік 14-69», не ўлічыўшы яе рэвалюцыйнай накіраванасці, бо, маўляў, у нас «павінна быць толькі свая самабытная культура». Гэты пункт погляду падзяляў і Ц. Гартны, які выступіў таксама ў той жа «Савецкай Беларусі» аж з двума артыкуламі. Дыскусія завяршылася пастановай Бюро ЦК КП(б) Б ад 17 снежня 1928 года, у якой асуджаліся тэндэнцыі, што прагучалі ў асобных выступленнях. Стаў вядомы грамадскасці ўсё праз тую ж «Савецкую Беларусь» і «Ліст трох» — Александровіча, Дудара і Зарэцкага — аб выхадзе з універсітэта, бо там з іх, студэнтаў-паэтаў, насміхаюцца, бо там няма нічога беларускага, там супраць беларусізацыі наогул... Ліст гэты шумна абмяркоўваўся ў друку, на пісьменніцкіх і студэнцкіх сходах... Выходзілі адно за адным фундаментальныя даследаванні — «Чатырохсотлеццe беларускага друку» (1926 г.), «Нарысы гісторыі беларускай літаратуры» М. Піятуховіча (ч. 1, 1928 г), «Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва» М. Шчакаціхіна (т. 1, 1928 г.), «Творы М. Багдановіча» (1-2, 1927—1928 гг.), «Беларуская драматургія» (1929 г.), «Беларуская навуковая тэрміналогія» (в. 1-24, 1922—1930 гг.) і інш. Іх выдаваў Інстытут беларускай культуры (Інбелкульт), які быў заснаваны ў 1922 г. на базе Навукова-тэрміналагічнай камісіі. Інбелкульт падпарадкоўваўся Наркамату асветы БССР, а з 1927 г. быў выдзелены ў самастойную навуковую ўстанову і набыў акадэмічны статут. Тады ж былі абраны 14 правадзейных яго членаў, сярод іх І. Замоцін, Ц. Гартны, Я. Купала, Я. Колас, Я. Лёсік (дарэчы, ён не пакідаў перад усталяваннем Савецкай улады Мінск, не быў у эміграцыі, як некаторыя пішуць), В. Ластоўскі, С. Некрашэвіч, А. Смоліч і інш. У рабоце Інбелкульта бралі ўдзел М. Гарэцкі, З. Бядуля, Я. Пушча, А. Гурло і іншыя беларускія пісьменнікі. У канцы 1928 г. Інбелкульт быў пераўтвораны ў АН БССР, урачыстае адкрыццё якой адбылося 1 студзеня 1929 г. Плённа працавалі ўсе аддзяленні гэтай навуковай установы, але асабліва — літаратуры. Можа, таму, што ўзначальваў яе сапраўдны вучоны І. І. Замоцін — сам рускі па нацыянальнасці, які прыйшоў на дапамогу маладой беларускай навуцы, каб яе арганізаваць, даць належны накірунак і ход. Скончыўшы Пецярбургскі гісторыка-філалагічны інстытут яшчэ ў 1897 г., ён у 1908 годзе стаў прафесарам Варшаўскага, а потым Данскога універсітэтаў, даследаваў творчасць М. Гогаля, В. Бялінскага, М. Чарнышэўскага, І. Тургенева, А. Астроўскага, Ф. Дастаеўскага, Л. Талстога... Прыехаўшы ў Беларусь, ён пачаў даследаваць творчасць Я. Коласа, Я. Купалы, М. Багдановіча, Ц. Гартнага, К. Крапівы... Пад кіраўніцтвам І. Замоціна ў інстытуце працавалі вядомыя вучоныя-літаратуразнаўцы Я. Барычэўскі, М. Піятуховіч і інш. Кожны з гэтых вучоных, маючы яшчэ дарэвалюцыйную вышэйшую адукацыю і будучы самі беларусамі, вядома ж, скіравалі ўвагу перш за ўсё на мала вывучаную літаратуру свайго народа—Я. Барычэўскі даследаваў пытанні эстэтыкі, тэорыі, выступаў часта на старонках часопісаў «Полымя», «Узвышша», «Маладняк», а М. Піятуховіч — дзейнасць Скарыны, творчасць Ф. Багушэвіча, Ядвігіна Ш., М. Багдановіча, Я. Купалы, Я. Коласа, Ц. Гартнага, М. Чарота... Але,— і гэта варта падкрэсліць,— што ні І. Замоцін, ні Я. Барычэўскі, ні М. Піятуховіч не замыкаліся ў вузка-нацыянальных тэмах і праблемах, а выходзілі на іншыя літаратуры, даследавалі ўзаемадзеянне і ўзаемаўплывы беларускай літаратуры з рускай, украінскай і іншымі, бо былі людзьмі адукаванымі, сапраўднымі вучонымі з глыбокімі ведамі і шырокім кругаглядам.

(Працяг. Пачатак у нумары за 20 мая).

Вялікая работа праводзілася па вывучэнню мовы, стварэнню слоўнікаў, вывучэнню мастацтва, гісторыі, краязнаўства, народнай гаспадаркі, этнаграфіі, фальклору, археалогіі... З 1926 г. кіраваў Інбелкультам, а потым, калі Інбелкульт стаў АН БССР, і Акадэміяй навук выдатны беларускі гісторык і грамадскі дзеяч У. М. Ігнатоўскі. Выпускнік Юр'еўскага (Тартускага) універсітэта, ён неаднаразова арыштоўваўся за ўдзел у рэвалюцыйнай барацьбе супраць царызму. У 1917 г. ён парваў з партыяй эсэраў, членам якой быў з 1901 г., вёў падпольную барацьбу з польскімі акупантамі, а ў 1920 г. уступіў у Камуністычную партыю бальшавікоў. Займаў пасады наркома земляробства, наркома асветы БССР, быў членам ЦВК БССР і яго Прэзідыума, членам Бюро ЦК КП(б)Б.

Шмат рабіў у справе падрыхтоўкі спецыялістаў самага рознага профілю і навуковых кадраў Беларускі дзяржаўны універсітэт, які ўзначальваў таксама выдатны вучоны, будучы акадэмік АН БССР і АН СССР У. І. Пічэта. Нарадзіўшыся ў Палтаве, ён скончыў Маскоўскі універсітэт, працаваў настаўнікам. У 1915 г. сустрэўся з М. Багдановічам. Гэтая сустрэча так паўплывала на маладога вучонага, што ў 1918 г., стаўшы прафесарам Маскоўскага універсітэта, ён напісаў і ў тым жа годзе прачытаў у Беларускім народным універсітэце ў Маскве курс лекцый «Гісторыя беларускага народа». У. Пічэта быў адным з арганізатараў і першым рэктарам БДУ, актыўна супрацоўнічаў з Інбелкультам, падтрымліваў сяброўскія адносіны з Я. Купалам, напісаў грунтоўныя працы «М. Багдановіч як гісторык беларускага адраджэння» (1922), «Беларуская мова як фактар нацыянальна-культурны» (1924), «Беларускае адраджэнне ў XVI ст.», «Друк на Беларусі ў XVI і XVII ст.» (1926), «Культура Беларусі ў XVI ст.», «Гісторыя Беларусі», ч. I (1924) і інш.

Новая беларуская савецкая навука абапіралася на трывалы грунт, багатую спадчыну, перш за ўсё на фундаментальныя працы акадэміка Я. Карскага, а таксама працы І. Насовіча, М. Любаўскага, М. Доўнар-Запольскага, А. Сапунова, П. Уладзімірава, А. Семянтоўскага, іншых вучоных.

Чаму гэтак падрабязна гаворыцца пра многае, пра што можна было б і не гаварыць? Здавалася б, усё ясна, вядома без напамінку. Так, сёння. Але тады знайшліся нібыта вучоныя, якія пачалі сцвярджаць адваротнае таму, што было на самай справе, паспрабавалі закрэсліць, знішчыць, што было зроблена і ў дарэвалюцыйны час і ў першыя гады Савецкай улады сапраўднымі вучонымі. Іх думкі, ды, мабыць, і свае выказаў на Другім пленуме праўлення Саюза савецкіх пісьменнікаў у сакавіку 1935 г. В. Вольскі. Вось некаторыя з іх:

«Маладому беларускаму савецкаму літаратуразнаўству дасталася ад мінулага вельмі нярадасная спадчына, якая не дае літаральна нічога станоўчага, нічога таго, што можна было б выкарыстаць для савецкага літаратуразнаўства...

Не менш нярадасную карціну ўяўляла і беларускае нацыянал-дэмакратычнае літаратуразнаўства, першыя асновы якога былі закладзены на старонках дарэвалюцыйнай буржуазна-нацыяналістычнай газеты «Наша Ніва». Рэакцыйныя прынцыпы нацыяналістычнай самабытнасці, якія развіваліся на старонках гэтага і падобных яму выданняў, потым узмоцнена насаджаліся контррэвалюцыйнымі нацдэмамі і ў маладое, савецкае беларускае літаратуразнаўства, першапачатковымі крыніцамі якога быў створаны ў Мінску Дзяржаўны універсітэт, які стаў адным з цэнтраў літаратуразнаўчай думкі, а потым Беларуская акадэмія навук...

Спрабуючы выкарыстаць рост нацыянальна-культурнага будаўніцтва ў БССР у сваіх контррэвалюцыйных, шкодніцкіх мэтах, нацдэмы змаглі на пэўным этапе часткова забраць у свае рукі гэтыя цэнтры, якія фармавалі маладое беларускае савецкае літаратуразнаўства....

Зыходзячы з прынцыпа адзінай нацыянальнай душы, нацдэмаўскія літаратуразнаўцы фальсіфікавалі творчасць асобных пісьменнікаў. Яны фальсіфікавалі, напрыклад, творчасць пісьменніка - прыгонніка і манархіста Дуніна-Марцінкевіча, а там, дзе гэта немагчыма было зрабіць, замоўчвалі антысавецкую дзейнасць асобных пісьменнікаў-контррэвалюцыянераў, падобных Гаруну, Ядвігіну і інш. Нацдэмы імкнуліся адарваць беларускую літаратуру ад узаемадзеяння з іншымі літаратурамі і, у першую чаргу, з рускай. Выключэнне рабілася імі толькі для буржуазна-дваранскіх і нацдэмаўскіх плыней ва ўкраінскай літаратуры, з якімі беларускія нацдэмы заўсёды блакіраваліся.

Такім чынам, адчужанасць, нават варожыя адносіны да ўсяго небеларускага і, у першую чаргу, да рускага з'явілася адным з вядучых прынцыпаў нацдэмаўскага літаратуразнаўства, якое выцякала з агульнай канцэпцыі контррэвалюцыйнага нацыянал-дэмакратызма. Сваё роднае, хоць і дрэннае, лепей за чужое, хоць і добрае,— з такою меркаю нацыяналістычнае літаратуразнаўства падыходзіла да ацэнкі літаратурных з'яў, не саромеючыся ў гэтых адносінах ніякіх гістарычных і фармальных дыстанцый...

Карыстаючыся ў якасці «метадалагічнай» асновы для сваёй барацьбы супраць партыйнай лініі ў літаратуры самай беспрынцыпнай сумессю розных буржуазна-ідэалістычных плыней, нацдэмы часта спрабавалі абаперціся на сучасныя класава-буржуазныя плыні ў літаратуразнаўстве Савецкага Саюза. На пэўным этапе яны знаходзілі, напрыклад, агульную мову з прадстаўнікамі рускай культурна-гістарычнай школы ў асобе акадэміка Замоціна, які працаваў і працуе на беларускім матэрыяле...

Шмат спатрэбілася сілы і часу, каб ачысціць беларускае літаратуразнаўства ад рознага смецця, якое прынеслі туды нацдэмы. Выкрытыя і разбітыя ідэолагі нацыянал-дэмакратызма былі выкінуты з беларускага савецкага літаратуразнаўства.

За гэты час беларускае савецкае літаратуразнаўства прарабіла пад кіраўніцтвам партыі значную работу па выкрыццю і выкарчоўванню рэшткаў нацдэмаўскай спадчыны, па крытычным пераглядзе і пераацэнцы мінулых шляхоў беларускай літаратуры...

Але, нягледзячы на шэраг бясспрэчных поспехаў і дасягненняў на літаратуразнаўчым фронце БССР, неабходна ўсё ж адзначыць, што рэшткі шкодніцкай дзейнасці нацдэмаў даюць пра сябе знаць і да сённяшніх дзён. Яны асабліва адчуваюцца ў недахопе кадраў, бо менавіта ў гэтай галіне нацдэмы змаглі нанесці асабліва шмат шкоды...» «Стенографический отчет». М. ГИХЛ, 1935 (стар. 190-193).

Вось так — галаслоўна і разам з тым быццам доказна... Бясспрэчна, і ў працах І. Замоціна, і ў працах Я. Барычэўскага, а тым больш у працах М. Піятуховіча, ды і ў працах іншых тагачасных беларускіх вучоных-літаратуразнаўцаў не ўсё бездакорна, былі там і недахопы, якія сёння бачацца асабліва яскрава (напрыклад, спрошчанае сацыялагізатарства, схематызм, недаацэнка інтуіцыі ў творчасці і інш.). Але ж было там і тое «зерне», якое ніяк нельга было выкідаць. А яго выкінулі... Ды яшчэ і аплявалі, утапталі ў гразь, прыпісаўшы тое, чаго не было...

1930 год. Прымаліся грандыёзныя планы, стваралася магутная індустрыя, на калектыўныя рэйкі пераводзілася сельская гаспадарка. Былі перамогі, поспехі і ў іншых галінах, у тым ліку і ў навуцы, культуры... Але ён, гэты год, разам з радасцю прынёс і немалыя трывогі, засмучэнні... Пачынаўся адыход ад ленінскіх нормаў, стварэнне «культу» і «кульцікаў». Калі ў Маскве ў РАППе за кіраўніка і самага аўтарытэтнага, уплывовага крытыка быў ужо Л. Авербах (а ў партыі, у кіраўніцтве падымаўся над усімі Сталін), дык у Беларусі на ролю першай асобы ў крытыцы прэтэндаваў,— і не без пэўнага поспеху,— Бэндэ. Менавіта ў гэты час у часопісе «Маладняк» з'явіўся яго артыкул «Шлях паэта» (1930, №№ 6—7), выношваўся-«даспяваў» і ўступ да «Беларускай літаратуры»; тады ж неўзабаве ён перайшоў і на працу ў АН БССР, перанёс туды як бы сваю рэзідэнцыю, свой штаб. Адтуль, можна сказаць, з Акадэміі навук і пачаліся галоўныя падзеі таго года — звальненні з працы і арышты. Былі звольнены з працы і арыштаваны былы дырэктар Інстытута мастацтвазнаўства Інбелкульта, намеснік загадчыка Белдзяржкіно Я. Дыла, акадэмікі АН БССР В. Ластоўскі, А. Смоліч, С. Некрашэвіч, Я. Лёсік, У. Пічэта, прафесар Б. Эпімах-Шыпіла, пісьменнікі М. Гарэцкі, М. Грамыка, У. Дубоўка, Я. Пушча, У. Жылка, А. Бабарэка, А. Гурло... Тое самае напаткала і былога старшыню ўрада БНР А. Цвікевіча, народнага камісара асветы БССР, члена ЦВК А. Баліцкага, народнага камісара земляробства БССР, члена ЦВК і ЦК КП(б)Б З. Прышчэпава... Арыштаваныя абвінавачваліся ў прыналежнасці да контррэвалюцыйнай арганізацыі. Справа ў тым, што перад гэтым на Украіне адбыўся працэс над контррэвалюцыйнай арганізацыяй «Саюз Вызвалення Украіны». І ў Беларусі напэўна ж таксама шукалася такая арганізацыя, ды і яе кіраўнік. Але выдумаць арганізацыю было куды лягчэй, чым знайсці яе кіраўніка, ды і даказаць, што такая арганізацыя сапраўды існавала. Ужо ўвосень на старонках газет пачалі друкавацца больш чым дзіўныя лісты, у якіх іх аўтары — самыя аўтарытэтныя і вядомыя ў Беларусі людзі — прызнаваліся ў грахах і памылках, якіх не мелі, публічна каяліся ў тым, у чым не былі вінаваты. Першы такі ліст ад 30 лістапада 1930 г. надрукаваў Я. Колас:

«У шкоднай контррэвалюцыйнай рабоце, побач з актыўнейшымі прадстаўнікамі беларускага нацыянал-дэмакратызму, прымаў удзел і я, падпаўшы пад уплыў нацыянал-дэмакратычных ідэй і настрояў. Мая дзейнасць выразілася не толькі ў канкрэтнай рабоце ў якасці члена тэрміналагічных камісій, у Навукова-тэрміналагічнай камісіі і ў Інстытуце беларускай культуры, але і ў маральным падтрыманні і адабрэнні тае работы, тых установак і тых ідэалагічных вывіхаў і контррэвалюцыйных праяў, што няўнікнёна, у сілу свае дробнабуржуазнае і кулацкае прыроды, нёс беларускі нацыянал-дэмакратызм. Адарваны ад жывых крыніц пралетарскіх мас, замкнёны ў цесным крузе нацыянал-дэмакратычнай інтэлігенцыі і атручаны нацыянал-дэмакратычным дурманам, я па-прымірэнцку і апартуністычна адносіўся да ўсіх яго праяў, ні разу не выступіўшы супраць іх ні вусна, ні ў друку, ні ў парадку пралетарскай самакрытыкі. Мая літаратурная дзейнасць, асабліва яе першы перыяд, выходзячы сваімі карэннямі з часоў «Нашай Нівы» і наскрозь прасякнутая дробна-буржуазнымі нацыянал-дэмакратычнымі настроямі, таксама шмат спрыяла росту і развіццю беларускага нацыянал-дэмакратызму.

Катэгарычна парываючы з беларускім нацыянал-дэмакратызмам, які ва ўмовах Заходняй Беларусі перарос у нацыянал-фашызм, я безагаворачна асуджаю яго, як канцэпцыю рэстаўрацыі капіталізму, канцэпцыю адміраючых клясаў, варожых дыктатуры пралетарыяту, як мутную антыпралетарскую плынь у творчым патоку сацыялістычнага будаўніцтва, як агіднае звяно ў іржавым ланцугу шкодніцтва контррэвалюцыйных арганізацый, нядаўна выкрытых у розных мясцох Саюзу ССР, шпіянажу замежных капіталістычных дзяржаў і іх генеральных штабаў, рыхтуючых употайку крывавую інтэрвенцыю супраць Саюзу ССР.

Асуджаны гісторыяй на адміранне, як аджыўшая свой час дробна-буржуазная спадчыннасць старога капіталістычнага свету, беларускі нацыянал-дэмакратызм павінен быць адмецен і скінут, як тормаз, з дарогі пераможнага ходу сацыялістычнага будаўніцтва. Усе сілы, усе здольнасці на фронт гэтага будаўніцтва!»

10 снежня таго ж года газета «Звязда» змясціла на сваіх старонках і ліст народнага паэта Беларусі Янкі Купалы. Вось гэты дакумент:

«На літаратурную ніву я ўступіў у 1905 г., надрукаваўшы свой першы верш «Мужык». Мэта, якую ставіў я перад сваёй паэтыцкай творчасцю, гэта было паказаць у мастацкай форме ўсю беднату, цемнату, нядолю і падняволле батрацтва і бядняцтва беларускае вёскі, якая горка пакутвала пад сацыяльным і нацыянальным гнётам крывадушнага царызму. Але, пачаўшы з 1908 г., у часы самае чорнае рэакцыі, працаваць у «Нашай Ніве», я падпаў пад уплыў нашаніўскага дробнабуржуазнага і кулацкага нацыяналістычнага адраджанізму, захапіўся гэтымі адраджэнцкімі ідэямі нацыянал-дэмакратычнай дзяржаўнасці і пачаў іх адбіваць у сваёй далейшай творчасці, апяваючы, як нешта цэлае, па-за класавае, беларускі «народ», ідэалізуючы ў некаторых сваіх творах гістарычнае мінулае, значыцца, феадальна-паншчыннае Беларусі, зацямняючы гэ-

(Працяг на стар. 12—13).

ЖЫЦЦЁ — СЛУЖЭННЕ РАДЗІМЕ

# ЗЕРНЕ падае ў глебу...

СУСТРЭЧА адбылася, можна сказаць, выпадкова і нават крыху нечакана. Канечне, за некалькі дзён да прыезду ў Слуцк сазваніўся з Мікалаем Іванавічам, дамовіліся аб больш зручным для яго часе, і цяпер я крочыў па вуліцы Сацыялістычнай, шукаючы сярэднюю школу № 8, у якой Хілько працуе старшым настаўнікам, выкладае беларускую мову і літаратуру. За метраў сто ад будынка школы ўвагу запыніў малады, ладна скроены мужчына, у позірку якога падалося нешта знаёмае—як пазней успомніў, на памяць прыйшоў яго партрэт, змешчаны ў першым нумары часопіса «Беларуская мова і літаратура ў школе». «Ці не Хілько?»,—падумалася, але тут жа адагнаў гэтую думку прэч. Мала, што падацца можа.

Мужчына тым часам запыніўся каля нейкай жанчыны, павітаўся: «Добры дзень!». Сумнення не было—на жаль, рэдка хто з моладзі гаворыць у горадзе па-беларуску. Парукаліся. Хілько, як высветлілася, даўно прыглядзеў непадалёку ад школы старую будыніну, перавезеную ў горад яшчэ ў 1910 годзе. У ёй калісь нават школка знаходзілася. Цяпер гаспадыня хаты жыве ў Мінску, рэдка завітвае ў Слуцк. Не чакаючы запытання, навошта яму гэты будынак, Хілько падзяліўся планамі: «Прыдбаць бы яго. Для школы. Можна было б стварыць у ім экспазіцыю, краязнаўчую ці нават этнаграфічную, як у Белакоза».

Слуцкага настаўніка не палохае тое, што гудзевіцкім энтузіястам у нейкай ступені было лягчэй—прыдбаць хатку ў суседняй вёсцы, перавезці яе, каб стварыць этнаграфічны музей, дапамог мясцовы калгас, выдзеліўшы неабходныя грошы. Тут жа ў асноўным давядзецца разлічваць на ўласныя сілы. Раней, праўда, не забывалі пра школу некаторыя кіраўнікі слуцкіх прадпрыемстваў. Цяпер жа, з пераходам на гаспадарчы разлік, справа ўскладняецца, кожная капейчына на ўліку. Аднак Хілько не збіраецца парываць з імі сувязі. Як і ў мінулыя гады, разам з некаторымі сваімі калегамі з іншых школ збіраецца папрацаваць летам, за кошт уласнага адпачынку, месяц на якім-небудзь заводзе ці фабрыцы.

...Не заўважылі, як падышлі да школы. Будынак новы, дзесяць гадоў толькі яму. Столькі ж настаўнічае тут і Хілько. Два гады настаўнічаў і адначасова вучыўся завочна на філалагічным факультэце БДУ імя У. І. Леніна. Скончыў вучобу ў 1980 годзе. Перад гэтым давялося папрацаваць будаўніком. Работы не цураўся. Любоў жа да літаратуры пачалася са школьных гадоў, калі вучыўся ў вёсцы Несцераўшчына Докшыцкага раёна. Нарадзіўся непадалёку, у Бірулях.

**Зямля наўкола—слынная, песенная. Ганарыліся вучні і тым, што на Бягомльшчыне, а гэта ж таксама Докшыцкі раён, прайшло маленства народнага паэта Беларусі Пімена Панчанкі, творы якога яны вывучалі на ўроках і асабліва радаваліся, калі ў многіх радках пазнавалі родныя краявіды, што жылі ў памяці з дзяцінства. А тут яшчэ ў школе з'явіўся новы настаўнік, нядаўні выпускнік універсітэта Уладзімір Януковіч, які з маладым запалам і гарэннем узяўся за выкладанне роднай літаратуры і мовы. І не толькі літаратуры і мовы, а і далучаў сваіх выхаванцаў да гісторыі краю, фальклору.**

**Запомніліся Міколу Хілько і гутаркі са старымі людзьмі Несцераўшчыны і навакольных вёсак. Размаўляў падоўгу, робячы ў спецыяльным сшытку паметы пяром ці алоўкам, запісваючы, як гучыць тое ці іншае слова, даведваючыся пра яго значэнне. Высветлілася, што нават у вёсках, якія знаходзяцца непадалёку адна ад другой, ёсць рознасць у вымаўленні ды і значэнні слоў не заўсёды супадаюць. Аказалася, вельмі цікавая гэтая навука—дыялекталогія. А гэта ж па ініцыятыве свайго настаўніка збіралі дзеці матэрыялы для дыялекталагічнага слоўніка.**

**Назаўсёды запаў у памяць і прыезд у школу маладых тады паэтаў Сяргея Законнікава, Мар'яна Дуксы, Уладзіміра Дзюбы, іх нязмушаная размова аб павазе да ўсяго роднага і блізкага з маленства, аб тым, што бяспамяцтва нішчыць чалавека як асобу, звужае яго духоўны свет.**

**«Настаўнік, выхавай вучня!»—такім правілам і кіраваўся ў паўсядзённай рабоце У. Януковіч. Выхавай не проста чалавека эрудзіраванага, усебакова адукаванага, а такога, які б з цягам часу ўзяў эстафету асветніцтва з тваіх рук, панёс паходню ведаў далей. Мікалай Хілько і стаў адным з такіх сапраўдных вучняў свайго настаўніка.**

...Гэта быў адзін з першых яго ўрокаў. Як цяпер помніць, у восьмым класе. У падручніку па беларускай літаратуры В. Івашына і М. Лазарука сутыкнуўся з паведамленнем пра «Слуцкі летапіс». Сумнення быць не магло. Хто-небудзь з такіх «дапытлівых» вучняў, якія абавязкова жадаюць на чымсьці «падлавіць» настаўніка, абавязкова захоча пра летапіс гэты пабольш даведацца. Ды чаму падлавіць, звычайная цікаўнасць. Ён жа, на свой сорам, пра «Слуцкі летапіс» нічога не ведаў, акрамя таго, што мімаходзь гаварылася ў падручніку. Захацелася самому даведацца, пра што ў летапісе гэтым расказваецца. Пошукі прывялі ў Мінск, зняў копію. Адначасова даведаўся, што, акрамя летапісу, згаданага ў падручніку, былі яшчэ тры «Слуцкія летапісы», экземпляры якіх па сённяшні дзень не адшуканы.

Нешта падобнае адбылося, калі прачытаў пра слуцкую філію «Маладняка». Таксама захацелася вучням расказаць больш, чым паведамляецца ў падручніку. Тут на дапамогу прыйшоў Ян Скрыган. Спачатку, праўда, яго кніга «Некалькі хвілін чужога жыцця», у якой пісьменнік успамінае і тых, з кім разам уваходзіў у літаратуру. Неўзабаве ж адбылося асабістае знаёмства з Янам Аляксеевічам, і дзядзька Ян стаў адным з найбольш актыўных дарадцаў слуцкага настаўніка.

Калі далучаў вучняў да свету творчасці народнага песняра Беларусі Якуба Коласа, захацелася М. Хілько зноў «адысці» ад падручніка, падрабязней расказаць дзецям аб працы Канстанціна Міхайлавіча на курсах настаўнікаў у Слуцку. Як заўсёды, прыйшлі на дапамогу ўспаміны беларускіх пісьменнікаў, бібліяграфічныя матэрыялы. Пакрысе пачалася запаўняцца выразкамі з газет, запісамі, фотакопіямі спецыяльная папка—з'явілася жаданне ўсур'ёз заняцца літаратурна-краязнаўчай работай. Настаўнік і яго вучні набывалі і творы пісьменнікаў-землякоў. Усе гэтыя матэрыялы складваліся ў асобнай шафе, бо цесната не дазваляла выдзеліць для будучага музея—а што такі музей у школе патрэбен, М. Хілько ніколькі не сумняваўся—асобны пакой.

У 1983 годзе, калі ўзнікла задумка, меркавалася, што гэта будзе спачатку кабінет краязнаўства. Выйсце знайшлі, адгарадзіўшы невялікі куток у калідоры. Калі ўзяліся за справу, спатрэбілася дапамога вучняў. І тут Мікалай Іванавіч зрабіў для сябе маленькае адкрыццё. Аказалася, што нават так званыя «цяжкія» школьнікі, калі захапіць іх важнай справай, гатовы на многае. Прынамсі, дзявяты клас, у якім М. Хілько з'яўляўся тады класным кіраўніком,

# БЭНДЭ

(Працяг. Пачатак на стар. 11).

тым самым клясавую сутнасць сацыяльнае і нацыянальнае барацьбы за вызваленне, якая і ў гэты перыяд, хоць прыдушана, але хвалявалася, узбуралася ў імкненнях і парывах працоўных мас (нелегальная рэвалюцыйная літаратура, забастоўкі і г.д.).

Гэтае захапленне дробнабуржуазнымі нацыянал-дэмакратычнымі ідэаламі прычынілася таму, што я і ў першыя гады Кастрычніцкае рэвалюцыі не змог ад іх пазбавіцца ды ўразумець і ўсвядоміць усю веліч і гістарычную нямінучасць пралетарскае рэвалюцыі, якая адна несла сапраўднае сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне працоўным былой царскай Расіі, у тым ліку і Беларусі. Дзякуючы гэтаму майму асляпленню, з'явіліся мае такія творы з ярка нацыянал-дэмакратычнымі настроямі, як, напрыклад, «Паўстань», «Перад будучыняй», п'еса «Тутэйшыя» і інш...

Прасякнуты нацыянал-дэмакратычнай заразай, прышчэпленай мне нашаніўскім перыядам маёй літаратурнай працы, калі я стаў быў адным з ідэолагаў буржуазна-дэмакратычнага «адраджэнства» і «незалежніцтва», я і пасля Кастрычніцкае рэвалюцыі не адмежаваўся, як гэта належала, ад акружаючага мяне нацыянал-дэмакратычнага асяродзішча, а быў уцягнуты ім і прыняў самы блізкі ўдзел у контррэвалюцыйнай рабоце віднейшых беларускіх нацыянал-дэмакратаў, якія на грунце Канстытуцыі Савецкай Беларусі, скарыстаўшыся давер'ем, якое аказана было ім з боку Савецкай улады, прыкрываючыся хлуслівай заслонай фальшывых крывадушных дэкляраций і запэўненнем, праводзілі свае шкодніцкія нацыянал-дэмакратычныя ідэі на культурным фронце.

Працуючы ў навукова-тэрміналагічнай камісіі, у Інбелкульце БАН, гэтых кіруючых штабах беларускага нацыянал-дэмакратызму, бачачы сваімі вачыма іхнія несумяшчальныя з інтарэсамі беларускіх працоўных мас і запатрабаваннямі партыі і Савецкае ўлады ўстаноўкі і мерапрыемствы ў культурным будаўніцтве, я не толькі ні разу не асудзіў іх, але, наадварот, маральна падтрымліваў і дапамагаў іх рэалізацыі.

Але гэты этап пройдзен. Цяпер я бачу ўсю шкоднасць і гібельнасць таго шляху, па якім памыкаліся беларускія нацыянал-дэмакраты павярнуць ход гісторыі. Гіганцкімі крокамі ідзе культурнае і эканамічнае будаўніцтва Беларусі. Краіна, быўшая ўвасабленнем рабства, убоства і беспрасветнай цемры, ператвараецца ў краіну вольнае працы. На месцы некалі гнілых дрыгвяністых балот вырастаюць фабрыкі, заводы, электрастанцыі. На месцы ўбогіх сялянскіх палосак красуюцца калгасныя нівы, навейшыя дасягненні аграноміі, тэхнікі і пладатворчай калектыўнай працы. На месцы народнай цемры вырастаюць безупынна ўсё новыя і новыя культурныя і навучальныя ўстановы.

Будуецца сацыялізм.

...Парываючы сам катэгарычна і беспаваротна ідэйна і арганізацыйна з беларускім нацыянал-дэмакратызмам, як з нейкай хвараблівай зданню, якая палоніла мяне на працягу доўгіх год майго свядомага жыцця, я шчыра жадаю, каб гэты мой горкі вопыт паслужыў навукай для той часткі беларускай інтэлігенцыі, якая яшчэ не зусім вызвалілася ад нацыянал-дэмакратычнага шалупіння, якая канчаткова не прыйшла да перакананння, што толькі працуючы пад кіраўніцтвам Камуністычнае партыі, гэтага авангарду рабочае клясы, толькі аддаючы свае сілы на сацыялістычнае будаўніцтва, яна не будзе адмецена жыццём, як агідная памятка рабскага мінулага.

Усе сілы — сацыялістычнаму будаўніцтву на зацвітаючай новымі агняцветнымі краскамі індустрыяльна-калгаснай глебе Савецкай Сацыялістычнай Беларусі!»

**Тады ж па Мінску, па ўсёй Беларусі, папаўзла пагалоска, што Янка Купала, не вытрымаўшы здзекаў, што чынілі над ім Бэндэ і яго памагатыя, ды і некаторыя іншыя, надзеленыя пэўнымі паўнамоцтвамі і ўладай асобы, зрабіў спробу самагубства. Ва ўсякім выпадку, ад тых дзён астаўся дакумент, прыналежнасць якога Янку Купалу не выклікае сумнення:**

«Старшыні ЦВК СССР і БССР т. Чарвякову

Таварыш старшыня!

Яшчэ раз, перад смерцю, заяўляю, што я ў ніякай контррэвалюцыйнай арганізацыі не быў і не збіраўся быць.

Ніколі не быў контррэвалюцыянерам і да контррэвалюцыі не імкнуўся. Быў толькі паэтам, які думаў аб шчасці Беларусі. Я ўміраю за Савецкую Беларусь, а не за якую іншую.

Верш мой «Паўстань» справакавалі:

1. Лёсік, надрукаваўшы яго побач з артыкулам, прысвечаным Пілсудскаму, аб чым я не ведаў, бо быў у вёсцы.

2. Шыла, які асвятліў Дзем'яну Беднаму гэты верш у правакацыйным сэнсе.

3. Я сам, змясціўшы яго ў зборніку, не прыдаўшы гэтаму палітычнага значэння.

Я вельмі прасіў бы рэабілітаваць мяне перад працоўнымі Сав. Беларусі. Гэта можна лёгка зрабіць. Верш, змешчаны ў зборніку, мной выпраўлены. Прасіў бы вырваць гэты верш і кніжку выпусціць.

Яшчэ адна просьба да Вас. Заапякуйцеся маімі сем'ямі, што тут у Мінску і ў Барысаве. Я ўміраю з цвёрдай верай у вечнае існаванне Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Папрасіце ГПУ, каб не цягалі маёй жонкі. Яна таксама, як і я, ні ў чым не павінна.

Бібліятэку сваю перадаю Бел. Дзярж. Бібліятэцы.

Шчыра дзякую за ўсё тое добрае, што для мяне зрабілі партыя і Сав. улада.

Уміраю, прымаючы тое, што лепей смерць фізічная, чымся незаслужаная смерць палітычная.

Відаць, такая доля паэтаў. Павесіўся Есенін, застрэліўся Маякоўскі, ну і мне туды за імі дарога.

Шкадую толькі, што не змагу болей прымаць удзел у вялікім будаўніцтве, якое разгарнула партыя і Сав. улада ў БССР.

Няхай жа жыве гэта новае творчае жыццё для шчасця ўсяго чалавецтва.

Янка Купала.

Памылкі свае, такія ці іншыя, я збіраўся выправіць, але не паспеў.

Менск, 22-XI-30 г.» Я. К.

. . . . . . . . . . . . .

**Невялікі каментарый.**

**Верш «Паўстань...» быў напісаны Я. Купалам 28 жніўня 1918 г. Надрукаваны ён упершыню ў газеце «Звон» 17 верасня 1919 г. за два дні да прыезду ў Мінск кіраўніка новай Польшчы Ю. Пілсудскага. Потым гэты верш быў перадрукаваны ў літаратурна-навуковым весніку Інстытута беларускай культуры «Адраджэнне» (№ 1 за 1922 г., рэдактар Я. Лёсін), тыраж якога адразу ж пасля выхаду быў амаль увесь знішчаны. Верш увайшоў у кнігу «Янка Купала. 1918—1928. Творы» (Мн., 1930 г.).**

## ПАЎСТАНЬ...

**Паўстань з народу нашага, прарок,**
**Праяваў бураломных варажбіт,**
**І мудрым словам скінь з народу ўрок,**
**Якім быў век праз ворагаў спавіт!**

**Збяры ў адну ўсю Беларусь сям'ю.**
**Вазьмі з яе прысягу і зарок,**
**Што не прадасць сябе, сваю зямлю...**
**Зняць путы бацькаўшчыне ўстань,**
**прарок!**

x

**Паўстань з народу нашага, песняр,**
**Былых і будучых вякоў баян,**
**І ў бурны кліч, як буры ўдар,**
**З віхрамі загудзі пад звон кайдан!**

**Гудзі над Беларуссяй з краю ў край,**
**У сэрцах спячых распалі пажар,**
**Над курганамі пяруном зайграй!**
**Збудзіць нябожчыкаў паўстань, песняр!**

x

**Паўстань з народу нашага, ваяк,**
**І волатам на вогненным кані**
**Народ аграблены — бы з торб жабрак —**
**За бацькаўшчыну павядзі ў агні!**

**Да хвалы шлях айчыне пакажы,**
**Змяці з палёў яе чужых бадзяк,**
**На стражы стань гранічнае мяжы...**
**Свой край заваяваць паўстань, ваяк!**

28.VIII.1918 г.
Карлсберг.

**У папярэдніх рэдакцыях былі яшчэ такія радкі:**

**Паўстань з народу нашага, Уладар,**
**Адбудаваць свой збураны пасад,**
**Бо твой народ забыў, хто гаспадар**
**І хто яго абдзёр з каронных шат.**

**На Уладара жджэ Беларусь даўно.**
**І жджэ цябе ўладарства Божы дар,**
**Вялікае, магутнае яно...**
**Пад беларускі сцяг прыдзі, Уладар.**

**ШЫЛА — Мікалай Шыла, беларускі грамадскі дзеяч. Я. Купала, відаць, ведаў, што Шыла сустракаўся з Дзям'янам Бедным, які, наймакш, пасля гэтай сустрэчы і напісаў верш, дзе ёсць такія радкі:**
**«Изменил поэт народу,**
**Заплясал панам в угоду,**
**Да, в угоду...**
**Янки посвист соловьиный**
**Превратился в шип змеиный,**
**Да, в змеиный...»**

. . . . . . . . . .

не сыходзіў у настаўнікаў з языкоў. А ўзяліся за абсталяванне кабінета, дык і высветлілася, што гэтыя ні да чога няздатныя хлапчукі і габляваць умеюць, і маляваць, і чарцёжнікі неблагія.

Відаць, вучняў захапіла не толькі сама справа, а і тое, што гэтую справу рабіць іх падахвоціў сам Мікалай Іванавіч. Тыя першыя гады навучання ў яго пераканалі школьнікаў, што перад імі педагог, які не проста адбывае патрэбныя гадзіны, а любіць літаратуру, жыве ёй па-сапраўднаму. Сам М. Хілько наконт гэтага прамаўчаў, пасаромеўся сказаць, каб не падацца нясціплым. А ён жа можа дэкламаваць па памяці ўсю «Новую зямлю» Якуба Коласа, ведае асобныя раздзелы «Яўгенія Анегіна» А. С. Пушкіна, не кажучы ўжо пра асобныя вершы гэтых і іншых пісьменнікаў. Палюбіўшы настаўніка, дзеці ахвотна адгукнуліся і на яго пачынанні. Сам М. Хілько таксама працаваў апантана, забываючыся пра вольны час. Тры гады запар не быў у водпуску, каб толькі ўсю справу давесці да ладу.

«Літаратурная Случчына» — так называецца сёння музей, створаны настаўнікам і яго выхаванцамі. Ёсць у гэтым музеі шматлікія матэрыялы, якія расказваюць пра жыццё і творчасць пісьменнікаў-землякоў. «Да паняцця Случчына,—гаворыць М. Хілько,—мы падыходзім у яе гістарычным разуменні, таму не абмінулі і пісьменнікаў, што нарадзіліся на цяперашняй Капыльшчыне ці Салігоршчыне, калі ў іх творчасці закранаецца слуцкая тэма». Таму поруч з імёнамі слуцакоў Язэпа Дылы, Васіля Віткі, Міколы Лобана, Алены Васілевіч, Паўла Місько і іншых суседнічаюць імёны Кузьмы Чорнага, Анатоля Астрэйкі, Адама Русака, Аляксея Кулакоўскага, Алеся Адамовіча, Максіма Лужаніна... І, канечне, М. Хілько не замыкаецца толькі на мясцовым матэрыяле, разумеючы, што выхаваць любоў да літаратуры—значыць, даць уяўленне вучням і аб сучасным літаратурным працэсе ў цэлым. У музеі расказваецца пра Максіма Танка і Пімена Панчанку, спецыяльныя раздзелы прысвечаны Янку Купалу і Якубу Коласу.

**Матэрыялы, сабраныя ў музеі, не нешта аморфна-застылае. Ужо сам факт, што ў ім праходзяць заняткі—перагружанасць школы не дазваляе «раскошу», каб гэты пакой пуставаў,—сведчыць у карысць таго, што вучні з розных класаў могуць штодня далучацца да літаратуры, нават кідаючы позірк на стэнды. Куды ж важней, што, пачынаючы недзе з чацвёртага-пятага класаў, М. Хілько паступова знаёміць дзяцей з жыццём і творчасцю пісьменнікаў-землякоў.**

Спачатку знаёмства гэтае носіць, можна сказаць, пазнаваўчы характар. «У чацвёртых-пятых класах,—дзеліцца вопытам Мікалай Іванавіч,—практыкую дыктоўку прыкладна такога зместу: «Слуцкая зямля багатая не толькі лясамі, урадлівымі палеткамі, але і талентамі. На ёй нарадзілася нямала пісьменнікаў, сярод якіх і пісьменнік-дэмакрат Альгерд Абуховіч. Выхадзец з багатай сям'і, ён прысвяціў сваё жыццё служэнню народу. Абуховіч быў высока адукаваным чалавекам, ведаў шмат моваў, але пісаў па-беларуску».

**Восьмая школа інтэрнацыянальная па сваім складзе. У ёй вучацца ў асноўным дзеці служачых, якія прыехалі з розных куткоў Савецкага Саюза. Прытым кантынгент навучэнцаў часта мяняецца. Няма патрэбы нагадваць, як цяжка працаваць настаўніку, што хоча, каб як мага большая колькасць яго выхаванцаў адчула мілагучнасць беларускай мовы, палюбіла яе, як сваю родную, і пастаянна сутыкаецца, што той-сёй з бацькоў вызваляе сваё дзіця ад урокаў. Прымусам наўрад ці зробіш што, мяркуе М. Хілько. Ёсць іншы шлях—зацікаўленасць. Ім колькі гадоў ужо і ідзе настаўнік, ператвараючыся ў сапраўднага даследчыка літаратуры і адначасова літаратуразнаўцу, якога хвалююць розныя рэаліі творчага жыцця.**

**Мікалай Іванавіч—няхай гэта прагучыць у дакор многім з нас—першым даведаўся, што апошнія пятнаццаць гадоў у Слуцку жыла родная сястра Кузьмы Чорнага Марыя Карлаўна Раманоўская, якая нядаўна памерла. Шмат сустракаўся М. Хілько з жанчынай, атрымаў ад яе рэдкія матэрыялы, у тым ліку арыгіналы пісем Чорнага з Масквы ў 1944 годзе ў Беларусь, калі пісьменнік даведаўся аб вызваленні роднай зямлі. Запісаў успаміны Марыі Карлаўны. На аснове іх прагучалі дзве перадачы па радыё, а самі ўспаміны захоўваюцца ў школе. Вучні слухаюць іх на ўроках, калі вывучаюць творчасць выдатнага пісьменніка, класіка нацыянальнай літаратуры.**

**Важна і тое, што дзеці даведваюцца, як пісьменнікі працуюць над сваімі творамі, якая нялёгкая мастакоўская праца. У прыватнасці, М. Хілько паказвае ім рукапісы Яна Скрыгана, якіх у музей дзядзька Ян перадаў нямала. Шматлікія праўкі, часам па шэсць варыянтаў. Тое ж самае можна сказаць і пра машынапісны рукапіс рамана М. Лобана «Шэметы», падораны ўдавой празаіка Б. Лобан.**

Папаўняецца і школьная бібліятэчка рэдкіх выданняў. Сёння ў ёй кнігі «Янук Сяліба» М. Танка (1943), «Астап» М. Лынькова (1944), «Апавяданні» Я. Брыля (1946), «Далёкія станцыі» І. Мележа (1945), «Поўдзень» В. Віткі (1946). «Расце» і другая бібліятэчка. Для таго, каб у час урокаў вучні маглі заўсёды мець пад рукой неабходную літаратуру, М. Хілько за ўласныя грошы набывае многія кнігі. А калі ўжо гаварыць пра літаратуру, якую педагог выкарыстоўвае пры падрыхтоўцы да ўрокаў, у пазакласнай рабоце, дык тут дзесяткі, сотні назваў.

Шмат дае М. Хілько супрацоўніцтва з гарадской бібліятэкай імя Н. К. Крупскай, праца ў мінскіх бібліятэках і архівах і, зразумела, абмен вопытам з калегамі. Дарэчы, Мікалай Іванавіч з'яўляецца кіраўніком Слуцкай гарадской метадычнай секцыі настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры. Аўтарытэт яго —відавочны, бо ёсць аб чым расказаць таварышам. І пра тое, як у час канцэртаў—восьмая школа з музычным ухілам—дзеці дэкламуюць творы беларускіх пісьменнікаў, і як хлопчыкі і дзяўчынкі прымаюць удзел у штогадовым свяце вуліцы Янкі Купалы, і як дбаюць, каб вучні з іншых школ, якія рэгулярна прыходзяць сюды на экскурсію, выйшлі з музея, адчуўшы сябе больш духоўна багатымі і шчодрымі.

Гэта ўсё тое, што ўжо зроблена М. Хілько. А ў планах—было б толькі памяшканне—спецыяльны пакой, адведзены М. Лобану: столькі матэрыялаў, рэдкія здымкі, рукапісы пісьменніка, яго бібліятэка. Добра было б на асобных стэндах размясціць рэдкія кнігі, прасіцца туды і матэрыялы пра некаторых пісьменнікаў. Многія ж кнігі, рукапісы, здымкі, з-за адсутнасці месца, схаваны.

Ёсць і цяжкасці іншага плана, пра якія ён пісаў ужо на старонках часопіса «Беларуская мова і літаратура ў школе». Пісаў ды не можа не сказаць зноў: «Ад нашай ініцыятывы, творчых пачынанняў і энтузіязму залежыць многае. У першую чаргу беларусавед павінен быць прапагандыстам роднай мовы і літаратуры, гісторыі і культуры. Але вельмі мала гадзін адведзена на вывучэнне ў школе роднай мовы і роднай літаратуры. Дакастрычніцкі перыяд у беларускай літаратуры па сутнасці зусім не разглядаецца. Нельга ж лічыць сур'ёзным тое, што настаўнік з вучнямі-васьмікласнікамі быццам галопам праімчыцца па мінулых стагоддзях».

Ёсць у М. Хілько прэтэнзіі і да беларускіх пісьменнікаў. Напрыклад: дзе тыя аўтары, якія праўдзіва скажуць пра сучасную школу, пра яе запатрабаванні, пра яе праблемы? Пішуць пра знаёмае па дзесятках кніг, паўтараюцца ды, на жаль, і гэтыя літаратурныя рэмінісцэнцыі на нізкім мастацкім узроўні. А былі ж героі, якіх дзеці і сёння любяць! Міколка-паравоз, Сцёпка Барута, Алёнка, Насцечка, персанажы твораў М. Лынькова, Я. Коласа, К. Чорнага.

Згадваючы іх, Мікалай Іванавіч заўважае: «За адной партай у нашых класах сядзяць беларус і кіргіз, рускі і украінец, латыш і літовец. Але гэтыя творы ім блізкія і зразумелыя, моўныя бар'еры тут не перашкода. Я ўжо не кажу пра выдатныя творы «дарослых» пісьменнікаў...»

Праблемы... Іх, безумоўна, шмат. Пра іх ведаюць многія настаўнікі, Ведае і М. Хілько. Аднак калі многія менш за ўсё разлічваюць на ўласныя сілы, ініцыятыву, мяркуючы, што нехта іншы прыйдзе і ўсё зробіць за іх, дык Мікалай Іванавіч, наадварот, гэтую ініцыятыву, самастойнасць праяўляе сам. Зерне ведаў ім сеецца плённа. І, як бачым, не на камень падае, а ў глебу.

Тым больш прыемна, што праца педагога-наватара са Слуцка заўважана. Мікалай Іванавіч часта выступае на розных нарадах і пасяджэннях, дзелячыся вопытам. Усхвалявана гаварыў ён аб выкладанні беларускай мовы і літаратуры і на адным з пленумаў праўлення СП БССР. Выбраны дэлегатам Усесаюзнага з'езда настаўнікаў. Нядаўна ў Ташкенце завяршылі сваю работу VIII Усесаюзныя педагагічныя чытанні. На іх ён выступіў з дакладам «Выкарыстанне матэрыялаў літаратурнага краязнаўства на ўроках беларускай літаратуры».

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

---

**2 красавіка 1931 г. газета «Звязда» надрукавала новы ліст Янкі Купалы, у якім гаварылася:**

«Метады і спосабы змагання беларускіх нацыянал-фашыстаў Заходняй Беларусі з дыктатурай пралетарыяту і уладай Саветаў добра вядомы, гэта правакацыя, прыслужніцтва польскай дэфензіве, падбухторванне да інтэрвенцыі супраць СССР і г. д. Апошняя правакацыя гэтых ягамосцяў па сваёй нагласці перавышае бадай усе іншыя, ім падобныя.

У беларускіх контррэвалюцыйных нацыянал-фашысцкіх газетах — «Беларускі звон» ад 26.II.31 г. і «Беларуская крыніца» ад 20.II.31 г. было надрукавана, што я нібы быў арыштаваны і пакончыў жыццё самагубствам. «Бел. звон» ухітрыўся нават змясціць мой партрэт у чорнай рамцы, ды яшчэ і некралог напісаць. Што гэта знача? Гэта знача паказаць па-правакатарску сваім чытачам, што ў Краіне Саветаў нялёгка жывецца нават пісьменнікам.

Я катэгарычна пратэстую проці такой агіднай хлусні. Ніколі ніхто мяне пры Савецкай уладзе не арыштоўваў, і ніколі я не паміраў. Доказам для вас, паны нацыянал-фашысты, служаць хоць бы гэтыя радкі, якія я сам пішу. Вашай апекі і вашага заступніцтва мне не патрэбна. З боку Камуністычнай партыі і Савецкай улады як карыстаўся, так і карыстаюся самымі прыхільнымі і ўважлівымі адносінамі. Жыву я пад аховай законаў дыктатуры пралетарыяту, законаў Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, і ўмешванне ў маё жыццё з боку зарубежнай белагвардзейшчыны буду заўсёды разглядаць як самую злосную правакацыю...»

**Усе, хто сачыў за падзеямі, што надта ж імкліва разгортваліся, не маглі не заўважыць і таго, што вялікая ўвага пачала раптам удзяляцца яшчэ аднаму вядомаму ў той час і аўтарытэтнаму ў Беларусі чалавеку — Усеваладу Ігнатоўскаму. Ён, прэзідэнт АН БССР, быў выведзены ў кастрычніку 1930 г. з членаў Бюро ЦК і членаў ЦК КП(б)Б. У друку з'явіліся публікацыі, якія проста шальмавалі, знішчалі яго як вучонага, партыйнага дзеяча. Урэшце, надрукаваны быў і яго ліст, у якім ён змушаны быў ганьбіць тых, з кім працаваў і каго ведаў, а, заадно, прызнацца і ў «памылках».**

**Публічнае пакаянне не дапамагло. У студзені пастановай Прэзідыума і Парткалегіі ЦКК КП(б)Б У. Ігнатоўскі быў выключаны з членаў партыі як нацыянал-ухіліст.**

**4 лютага 1931 г. У. Ігнатоўскі пакончыў жыццё самагубствам...**

**Адбыліся і некаторыя іншыя важныя падзеі. Яшчэ ў маі 1927 г. быў вызвалены ад пасады старшыні Савета Народных Камісараў Я. Адамовіч, які шчыра праводзіў «беларусізацыю», сябраваў з Я. Купалам і Я. Коласам, бываў у іх дома ў гасцях. З восені 1929 г. вызвалены ад пасад дырэктара Беларускага дзяржаўнага выдавецтва і рэдактара часопіса «Полымя» былы старшыня першага ўрада БССР З. Жылуновіч (Ц. Гартны), ад пасады галоўнага рэдактара газеты «Савецкая Беларусь» М. Кудзелька (М. Чарот)...**

**Рыхтаваўся адкрыты судовы працэс над «удзельнікамі» «контррэвалюцыйнай нацыяналістычнай арганізацыі». Але ён адкладваўся з дня на дзень — ніяк не ўдавалася знайсці таго, каму б можна было прыпісаць кіраўніцтва гэтай арганізацыяй, ды і самой арганізацыі, як выявілася, не было і даказаць, што яна існавала, пры ўсім старанні некаторых, не ўдавалася. Урэшце, у красавіку 1931 г. стала вядома, што ніякага адкрытага судовага працэсу не будзе—арыштаваныя былыя члены ўрада БНР, а таксама пісьменнікі, за выключэннем А. Гурло (яму 5 год высылкі далі ўмоўна, па ўсёй верагоднасці, улічылі, што ён прымаў самы актыўны і непасрэдны ўдзел у Кастрычніцкай рэвалюцыі і быў, да таго ж, хворы), высылаліся ў адміністрацыйным парадку за межы Беларусі.**

**У тым жа годзе ў снежні спыніла сваё існаванне літаратурна-мастацкае згуртаванне «Узвышша», якое аб'ядноўвала многіх вядомых пісьменнікаў. («Ідэалогія ашалелага кулака і нэпмана з'яўлялася фармуючым пачаткам ідэалогіі «Узвышша» і ідэалагічным комплексам творчасці сяброў згуртавання «Узвышша» таго часу, а шмат якіх і пасля»,— напіша Бэндэ ў адным з артыкулаў у часопісе «Маладняк», а М. Клімковіч на Першым Усесаюзным з'ездзе савецкіх пісьменнікаў выкажа сяму-таму падзяку, «што яны дапамаглі БелАППу прарабіць гэтую аперацыю»...).**

**Заканчэнне будзе.**

---

## «ЛіМ» ПАВЕДАМЛЯЕ

### У ЦЭНТРЫ УВАГІ — ТЭАТР ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

**Адбыўся пленум праўлення Саюза тэатральных дзеячаў БССР з парадкам дня «Аб удзеле тэатраў лялек Беларусі і Рэспубліканскага тэатра юнага гледача ў эстэтычным выхаванні падрастаючага пакалення». З дакладам выступіў сакратар праўлення СТД К. Белавусаў. У спрэчках прынялі ўдзел практыкі сцэны, педагогі, крытыкі. Прынята пастанова, скіраваная на паляпшэнне спраў тэатра для дзяцей. Справаздачу аб рабоце пленума СТД мяркуецца змясціць у бліжэйшых нумарах «ЛіМа».**

### РАЯЦЦА КІНЕМАТАГРАФІСТЫ

**«Беларускі кінематограф сёння: праблемы майстэрства і творчай змены» — такі быў парадак дня чарговага пленума праўлення Саюза кінематаграфістаў БССР. На ім выступілі І. Дабралюбаў, Ю. Цвяткоў, А. Белавусаў, А. Красінскі, В. Нячай, Е. Бондарава, В. Нікіфараў і іншыя.**

**Больш падрабязна пра пленум кінематаграфістаў «ЛіМ» раскажа ў бліжэйшых нумарах.**

### ПРА СЛАВУТЫХ ЛЮДЗЕЙ РОДНАГА КРАЮ

**Выдавецтва «Навука і тэхніка» пачало выпуск навукова-папулярнай серыі «Нашы славутыя землякі». Выйшла з друку першая кніжка — «Прафесар электраграфіі і магнетызму». Яе аўтары — В. Грыбкоўскі, В. Гапоненка і У. Кісялёў. Расказваецца пра таленавітага беларускага вучонага Якуба Наркевіча-Юдку (1847—1905), імя якога ў канцы мінулага і пачатку гэтага стагоддзя было добра вядома не толькі ў Беларусі, але і ў Італіі, Францыі, Германіі. У 1896 годзе ў Парыжы была нават выдадзена кніга пра яго жыццё і навуковую дзейнасць.**

**Што ж прынесла вядомасць гэтаму чалавеку? У сваім маёнтку Наднёман ён праводзіў арыгінальныя доследы па прыёме і перадачы электрычных сігналаў без дроту, вывучаў уплыў электрычнасці на расліны, прапанаваў новы метад электратэрапіі. Вучоны адкрыў з'яву, якая толькі праз паўстагоддзя стала здабыткам сучаснай навукі, атрымаўшы назву «эфекта Кірліяна».**

**Займальны выклад матэрыялу, мноства ілюстрацый, прывабнае афармленне і невысокі кошт, безумоўна, прыцягнуць да кнігі ўвагу шматлікіх чытачоў, якія цікавяцца гісторыяй роднага краю.**

**У наступным годзе выдавецтва выпускае тры серыйныя кніжкі — «Рыцар навукі з Нянькава» (пра Уладзіслава Дыбоўскага), «Адысея навагародскай лекаркі» (пра Саламею Русецкую) і «Вяшчун славы і волі» (пра Уладзіслава Сыракомлю). Гэтыя выданні яшчэ не позна заказаць у кнігарнях, што будзе гарантаваць чытачам іх набыццё.**

**Надалей у серыі «Нашы славутыя землякі» плануецца выдаваць чатыры-пяць кніжак штогод.**

**З. САНЬКО,**
**намеснік галоўнага рэдактара выдавецтва «Навука і тэхніка».**

### УДЗЯЧНАСЦЬ ЧЫТАЧОЎ

**Творчы вечар Станіслава Шушкевіча сабраў у Доме літаратара рознаўзроставую аўдыторыю. І гэта невыпадкова — кнігі пісьменніка з аднолькавай цікавасцю чытаюць і дзеці, і дарослыя, з поспехам выступае ён і як паэт, і як празаік, і як мемуарыст, і як перакладчык.**

**Слова пра жыццёвы і творчы шлях С. Шушкевіча сказала кандыдат філалагічных навук М. Яфімава. У выкананні дзяцей і артыстаў гучалі вершы С. Шушкевіча. Некалькі твораў бацькі прачытала і яго дачка Р. Алтуненка.**

**В. ЛУКАЧЫК.**

### ПЕРШЫЯ ПАДРАХУНКІ

**Своеасаблівай творчай справаздачай маладых паэтаў стала чарговая «Прэм'ера новай кнігі», якая адбылася ў Доме літаратара. Яна была прымеркавана да выхаду чарговых зборнікаў «Ліст рабіне» Уладзіміра Марука і «Чытаю зоры» Алеся Пісьмянкова. Гэта, як вядома, іх другія кніжкі, і зусім зразумела, што яны звычайна даюць адказ на тое — адбыліся ці не адбыліся аўтары як літаратары.**

**На гэтае пытанне і паспрабавалі даць адказ удзельнікі сустрэчы, тон якой задаў вядомы паэт і літаратуразнавец Алег Лойка, расказаўшы, як у свой час У. Марук і А. Пісьмянкоў пачыналі свой шлях ва універсітэцкім літаратурным аб'яднанні «Узлёт».**

**З чытаннем твораў выступілі віноўнікі ўрачыстасці.**

**М. СЕЧКА.**

**Тое, пра што мы хочам расказаць чытачам, вядома шмат каму. Але, відаць, як і мы, тыя, хто пра ўсё ведаў, падпарадкоўваўся абставінам і цярпеў. Для нас гэтае цярпенне было невыносным. Невыносным ад усведамлення, што хутка бяжыць жыццё, паміраюць людзі і знікае памяць пра страшэнныя злачынствы супраць народа, учыненыя ў 30-х гадах. Невыносным ад усведамлення таго, што калі страціцца, зглуміцца гэтая памяць — паўторыцца ўсё спачатку.**

# Курапаты — дарога смерці

**Зянон ПАЗНЯК, Яўген ШМЫГАЛЁЎ**

**РЭАБІЛІТАЦЫЯ ТЫХ, ХТО СТАЎ У МІНУЛЫМ АХВЯРАЙ НЕАБГРУНТАВАНЫХ ПАЛІТЫЧНЫХ АБВІНАВАЧАННЯЎ, БЕЗЗАКОННАСЦІ, — НАШ ПАРТЫЙНЫ І ГРАМАДЗЯНСКІ АБАВЯЗАК.**

(З Тэзісаў Цэнтральнага Камітэта КПСС да XIX Усесаюзнай партыйнай канферэнцыі)

**Як сведчаць некаторыя нашы даследчыкі, толькі ў Беларусі ў 30-ыя гады яжоўска-берыеўскім рэпрэсіям былі падвергнуты сотні тысяч чалавек. Значная частка іх была выслана на ўсход і поўнач краіны (Салавецкія астравы, Варкута, Калыма), а астатнія ліквідаваны на месцы — непадалёк ад іх месца жыхарства. Апошняе было танней, не загружала і без таго заўжды перагружаны чыгуначны транспарт. Але дзе канкрэтна ліквідаваны гэтыя многія сотні тысяч, у якой зямлі тлеюць іх белыя костачкі?**

**Не трэба думаць, дарагі чытач, што гэта нейкая асаблівая, праклятая людзьмі і богам зямля, — па сутнасці, гэта тыя ж самыя мясціны, па якіх штодня ходзім мы, дзе адпачываем на лагоднай прыродзе ў выхадныя і святочныя дні, дзе весела гуляюць, нічога не ведаючы аб мінулым, нашы бесклапотныя дзеці. Так, яны не шмат што ведаюць з тых жахлівых часоў, ды і мы, дарослыя, інфармацыю такога роду пачалі атрымліваць толькі ў апошні час. Шмат год у краіне дзейнічалі сілы (яны дзейнічаюць і цяпер, хіба што іншымі метадамі), вельмі зацікаўленыя схаваць даўнія справы пад покрыва «сакрэтнасці», утаіць ад народа свае крывавыя сляды. Толькі, як даўно вядома, злачынствы кепска ўжываюцца з самай найсакрэтнай сакрэтнасцю, рана ці позна яны выходзяць на свет божы, каб лішні раз заклеймiць зло і засведчыць неабходнасць пільнасці.**

**У нас ёсць нямала велічных помнікаў ахвярам нямецкага фашызму, сведчанне гераізму беларускага народа ў барацьбе з гэтым заклятым ворагам чалавецтва. Але нішто яшчэ ў нас не напамінае пакаленням аб ахвярах сталіншчыны. Тое няправільна і недаравальна! Мы павінны памятаць аб іх — не героях, а бязвінных ахвярах тырана — спрацаваных рабочых, галодных калгасніках, першых народных інтэлігентах, мужчынах і жанчынах, — якія з куляю ў патыліцы кладліся ў самімі ж выкапаныя ямы, вымаўляючы не праклён, не пратэст, а адзінае, марнае і трагічнае слова «Завошта?!»**

**Яны ўжо ніколі не пачуюць адказ на тое сваё пытанне, затое адказ на яго павінны зразумець мы.**

**Менавіта гэтай мэце і служыць змешчаная ніжэй публікацыя двух аўтараў, здзейсніўшых свой людскі абавязак перад народам і перад гісторыяй.**

**Васіль БЫКАЎ,**
**лаўрэат Ленінскай прэміі.**

ЧАЛАВЕК, што зрабіў злачынства і існуе з ім, — злачынец. Ён здольны чыніць зло. Ён падлягае кары. Хто пакаяўся і праз пакуты сумлення, сорам і боль вярнуўся ў пачатак, каб тварыць дабро, той ачысціўся, стаў чалавекам. Вось дзе духоўная сутнасць жыцця і смерці, вечнасці і бяссмерця. Патрабаванне ўсёй праўды аб злачынствах 1930—1950-х гадоў — гэта голас народнага сумлення.

Ачышчэнне сумлення неабходна грамадству, якое дапусціла і спарадзіла генацыд — найвялікшае злачынства супроць чалавецтва. Вядома ж, не стануць раскайвацца ні нябожчыкі-забойцы, ні нават «ціхія пенсіянеры». Раскайвацца павінны наступныя пакаленні, якія і не бачылі той бяды, раскайвацца за грахі продкаў. Маральныя пакуты павінны браць на сябе нашчадкі народа, аплакаць ахвяры, даць ацэнку злачынствам. Такая духоўная дыялектыка грамадства. Павінен быць рахунак сумлення, каб не вярнулася смерць. Народ, як і чалавек, мае сваю індывідуальнасць. Толькі чалавек адзінокі, а народ шматлікі. Толькі чалавек абмежаваны ў часе сваім векам, а народ вечны сваёй гісторыяй.

**З. Пазняк:** У маладосці ўсяго мяне да болю сардэчнага скаланулі апавяданні людзей, што вярнуліся са сталінскіх турмаў і лагераў, амаль з небыцця. Я тады нічога не запісаў, не занатаваў і з жахам зразумеў сваю памылку ў духаце 70-х, калі ўбачыў, як спакваля ўсё вяртаецца, як фальклaрызуецца, міфалагізуецца народная памяць аб тых часах і проста знікае. Пачварныя вобразы з тых апавяданняў стаяць у свядомасці...

Вось гоняць людзей па этапах. У дваццаціградусны мароз вязуць цягнікам. Спыніліся на станцыі. «Усім раздзецца, — загадвае канвой, — пойдзем у лазню». Голых людзей на лютым марозе абліваюць з брандспойтаў вадой. «З лёгкай парай, — рагочуць канваіры, — а цяпер спаць». І зачынілі дзверы. Назаўтра з усяго цягніка жывымі засталіся нямногія. Абледзянелыя трупы грузілі на вазы так, каб звісалі галовы, а нехта з катаў разбівае іх калуном. Відаць, загадана для гарантыі. Мінаюць гады, і не знікае з уяўлення забойца мерцвякоў.

Вось прывозяць на Калыму, заганяюць у дзіравы дашчаны барак, свішча сіберны вецер. Праз ноч палавіна не ўстала. Тады астатнія паставілі акалелых, змерзлыя трупы ўздоўж сцен, каб затуліць шчыліны, каб сагрэцца. І выразна паўстаюць перада мной тыя атланты і карыятыды, тая архітэктура эпохі, той вобраз — барак...

Расказваў Іван Трафімавіч Смаль, член партыі з 1917 года, член Гомельскага раўкома. У 1937-ым ён працаваў на Магілёўскім аўтарамонтным заводзе намеснікам дырэктара. Яго забралі па бязглуздым даносе аднаго камсамольца-стаханаўца—завод своечасова не адрамантаваў дзве машыны. Уткнулі ў камеру, дзе стаяла шчыльна стуленая маса людзей, нельга было нават варухнуцца. Людзі задыхаліся, вар'яцелі, паміралі стоячы, і трупы стаялі разам з жывымі. І калі ўжо нельга было ўціснуць нават паўчалавека, новых вязняў ахоўнікі закідвалі наверх, на галовы жывых.

А каб выбіць паказанні, была асобная камера, цёмная, з нізкай, ніжэй паўтара метра столлю, напоўненая ледзяной вадой. На адзіным сухім месцы ў цэнтры стаяла чорная труна. І толькі там чалавек мог знайсці ад халоднай вады паратунак. Шмат хто звар'яцеў у той труне.

Іван Трафімавіч стрываў усе катаванні і не здаўся, не падпісаў абвінавачанні. Пасля краху Яжова яго выпусцілі — хворага і сівога... А ў пачатку 50-х гадоў ён зайшоў па справах са сваім сынам у Міністэрства сацыяльнага забеспячэння БССР. У вестыбюлі яны спаткаліся з упэўненай, шыкоўна апранутай жанчынай з горда ўзнятай галавой і сіватай прычоскай. «Здравствуйте, Иван Трофимович», — не сказала, праспявала яна грудным голасам і пайшла. Іван Трафімавіч самлеў на руках у сына. «Бацька, хто гэта?» — «Гэта Байкова. Перад вайной яна была следчай у Магілёўскім НКУС». Яна катавала Івана Трафімавіча. Перад Байковай дрыжэлі ўсе магілёўскія вязні. Садыстка, яна вяла допыты толькі мужчын, і асабліва любіла катаваць былых рэвалюцыянераў. Вязню загадвала распрануцца дагала і танцаваць пад мелодыю вальса «На сопках Маньчжурыі», патрабавала спяваць. Потым брала спецыяльна зроблены для гэтай мэты бізун з драцянымі махрамі і сцябала чалавека па органах і самых балючых месцах, даводзячы сябе да экстазу, а вязня да немарасці ад болю.

Да 1937 года сын Івана Трафімавіча вучыўся ў адной школе разам з сынам Байковых (муж Байковай таксама працаваў у НКУС), бываў у іх дома, не ведаючы ні аб чым. Ветлівая гаспадыня ў фартушку частавала цукеркамі і гарбатай...

**Я. Шмыгалёў:** У сярэдзіне 1950-х гадоў, будучы капітанам Савецкай Арміі, я служыў у Валагодскай вобласці. Там я пазнаёміўся са старшым лейтэнантам Пятром Уваравым, які ў 1940-х гадах прымаў удзел у высяленні татараў з Крыма. Ён расказваў мне, што ўсе кварталы, дзе жылі крымскія татары, былі ў адначассе абкружаны войскамі НКУС. На зборы далі тэрмін каля гадзіны. Збіраліся пад дуламі аўтаматаў. Пры спробе ўцёкаў — смерць. Татараў загналі ў вагоны і павезлі ў Сібір і Казахстан. У эшалонах іх кармілі толькі салёнай камсой і селядцамі. Пры гэтым не давалі вады, і яны паміралі: спачатку хворыя і старыя, а затым іншыя. На кожнай станцыі выкідвалі мёртвых. Людзі прасілі аб літасці, але літасці не было. Каштоўныя рэчы і грошы канваіры адбіралі сабе. Пра здзекі над татарамі Увараў расказваў з задавальненнем, са смакам, лічыў свае паводзіны правільнымі, а сталінскі акт у адносінах да татараў ухваляў.

**З. Пазняк:** Павінна быць кніга народнай памяці. Уражваюць вобразы, што паўстаюць з чалавечых апавяданняў. «Памятаю, у 1938-ым зімой іду па вуліцы каля будынка НКУС,— успамінае мінчанін Сяргей Фёдаравіч Ладуцька. — Мароз, аж дух займае. А з адкрытых вокнаў падвалаў НКУС, як з-пад зямлі, пара валіць праз краты, нібы з паравоза — гэтулькі там насадзілі людзей». Вобраз працінае, як маланка. На верхніх паверхах шморгаюцца строгія чалавечкі ў кіцелях і галіфэ, рапартуюць, раскрываюць і закрываюць папкі, дзеславіта ходзяць з паперамі, а пад імі ў бітком набітых падвалах дыхае пар, крывёй і потам прыдушаны народ. Куды ж ляціць гэты паравоз? Дзе яго прыпынак?

МЫ ЗНАЙШЛІ гэты прыпынак. Не давала спакою думка: куды падзелі людзей, якіх расстралялі? Дзе яны, іх жа не два, не тры чалавекі, а тысячы? У пачатку 1970-х гадоў на паўночнай ускраіне Мінска, злева ад Лагойскай шашы, не даязджаючы да кальцавой дарогі, існавала яшчэ вёска Зялёны Луг. Старажылы яе расказалі нам, што за два кіламетры на поўнач ад вёскі, паміж кальцавой і заслаўскай дарогамі, у лесе з 1937 па 1941 год кожны дзень і кожную ноч расстрэльвалі людзей, якіх прывозілі сюды на машынах. Там на ўзгорках стаяў стары бор, вакол лясы і глухмень. Кавалак бору гектараў з 10—15 быў абгароджаны высокім, вышэй за тры метры шчыльным дашчаным плотам у накладку — дошка на дошку, абцягнутым зверху калючым дротам. За плотам была ахова і сабакі. Людзей вазілі сюды па гравійнай дарозе, што вяла ад Лагойскага тракту на Заслаўе. Шлях той называлі тады «дарогай смерці».

Апытанне зялёналужцаў і жыхароў навакольных вёсак Цна-Ёдкава і Драздова — сведак і відавочцаў тых страшных падзей — дапамагло ўстанавіць не толькі факты, але і ўзнавіць карціну масавых забойстваў. Аднак у 70-х гадах абнародаваць, усім расказаць пра іх не было магчымасці.

У 1987—1988 гадах мы расшукалі некаторых жыхароў знесенай ужо да гэтага часу вёскі Зялёны Луг, зноў зрабілі апытанне старажылаў і сведак падзей у навакольных вёсках, высветлілі акалічнасці, дэталі, занатавалі адказы...

Расстрэлы пачаліся тут у 1937 годзе. Спачатку тройчы ў дзень — на раніцы, у 14 гадзін і вечарам, калі сцямнее — у лес прывозілі па некалькі машын людзей і расстрэльвалі. Трупы скідалі ў загадзя выкапаныя глыбокія ямы, штабель на штабель. Настраляўшы даверху, ямы прысыпалі слоем пяску не больш за 20—25 сантыметраў. Часам зверху саджалі сасонку.

У другой палавіне 1937 года месца абгарадзілі. Смертнікаў пачалі прывозіць па іншаму графіку: пасля абеду, пад вечар і цэлую ноч. Вазілі безупынна штодня. Апытаныя не памятаюць нават, ці былі перапынкі ў нядзелю. «Кожны дзень стралялі, — расказвае жыхарка Цны Кацярына Міхалаеўна Багайчук (1919 года нараджэння), — і машыны гулі. Бывала, як толькі вечар, мужчыны збяруцца, выйдуць на двор, паслухаюць, як страляюць, пагавораць гэтак ціха, пабядуюць і разыходзяцца».

«Іншы раз адразу па некалькі машын заязджала ў загараду, вазілі без перастанку, — расказвае Дар'я Ігнатаўна Тоўсцік з Цны (з 1911 г.). — А дарога ў лесе выкатана, як асфальт. Як пачнуць страляць, дык чуваць было енкі, плач, праклёны».

«Уся вёска была ў страху. Пяць гадоў па начах не маглі спаць ад стрэлаў», — кажа старажыл Цны Бацян Раман Міхалаевіч (з 1913 г.). Тое пацвярджае Няхайчык Мікалай Пятровіч (з 1929 г.) і іншыя цнянцы. «Старэйшыя хлопцы, якія смялейшы, дык нават лазілі за плот, — кажа Мікалай Пятровіч, — рабілі дзіркі ў агароджы і шмат што бачылі». Мы пытаемся, ці жыве яшчэ хто з іх. «Ёсць: Карповіч Мікола».

Мікалай Васільевіч Карповіч нарадзіўся ў 1919 годзе, самавіты, яшчэ досыць дужы чалавек. У 1939 годзе пайшоў у войска. Лёс пакідаў яго па свеце і па франтах. У 1937—1938 гг. не раз бачыў, як забівалі людзей у лесе. Магілы, відаць, капалі ў першай палове дня, бо пад вечар (часта пасля абеду), калі пачыналі пад'язджаць машыны, ямы былі ўжо выкапаныя. М. Карповіч распавядаў, што людзей забівалі партыямі. Ставілі ў рад, затыкалі кожнаму рот коркам і завязвалі анучай (каб не выплюнуў кляп). Забойцы былі ў форме НКУС. Яны стралялі з вінтоўак збоку ў галаву крайняга, каб прашыць куляй двух чалавек. «Як стрэліць, — кажа Мікалай Васільевіч, — дык адразу двое ў яму і падаюць. Патронаў шкадавалі». Настралялі адну партыю, крыху прысыпалі штабель, паправілі, каб роўна было, і падводзілі наступную партыю. Настраляўшы даверху, яму прысыпалі пяском і зараўноўвалі.

«Адзін раз, — апавядае М. Карповіч, — спатыкае мяне вартаўнік з Малінаўкі (вёска за 4 кіламетры адсюль.—**Аўт.**), разнерваваны, узрушаны. Ужо набілі, кажа, ідзі паглядзі, нават не засыпалі... Падышлі мы да плота, што ля дарогі. Аж блізка ў лагчыне вялікая шырокая яма, даверху трупамі напоўненая. Ляжаць, брат, у рад, як парасяты». Пытанне: «Ці было, каб выратаваўся хто адтуль?» — «Куды там выратуешся, гэтакі плот, — адказвае Мікалай Васільевіч. — Праўда, раз пад вечар, ужо шарэла, ішоў я праз лес з Зялёнага Луга ў Цну з адным нашым. Вусцішна было. Якраз страляць перасталі. Аж бачым, сядзіць чалавек пад дрэвам у акрываўленай бялізне, ледзь жывы. Мы падышлі — што рабіць? Якраз машына завурчэла. Адскочылі мы, ідзём. Насустрач

два энкавэдзісты: «Кто такие?» — «Цнянскія», — «Никого не видели? — «Не-а.., сядзеў там нейкі», — задрыжэў дзядзька. Потым мы азірнуліся, а яны таго за ногі валакуць. Укінулі ў машыну, як палена, і паехалі. І як ён тады адтуль вылез — я і цяпер не магу зразумець...»

І ўсё ж у 1938 годзе адзін чалавек уцёк з-пад расстрэлу. «Праз плот — і не знайшлі», — сведчыць Марыя Рыгораўна Пацяршук (з 1911 г.) з Цны. Адзін чалавек... Можа, ён яшчэ дзе жыве? Можа, прачытае гэтыя радкі і азавецца?

Марыя Рыгораўна пацвердзіла, што перш чым людзей пастраляць, ім затыкалі рот коркам. Пра гэта кажуць таксама жыхар вёскі Драздова Скварчэўскі Васіль Якаўлевіч (з 1930) і іншыя. Аднак шмат хто чуў крыкі, плач, маленні аб літасці. Можа, не хапала коркаў? Але, пэўна, справа ў іншым. Чалавек, які доўгі час рэгулярна забівае людзей, паступова робіцца садыстам. У яго ўзнікае патрэба памучыць сваю ахвяру, перш чым яе забіць. Вось і мучылі людзей перад смерцю.

Відаць, не патроны эканомілі забойцы, калі імкнуліся прашыць адной куляй дваіх чалавек адразу. Гэта была свайго роду бравада, спорт для катаў, дэманстрацыя прафесіяналізму. М. Карповіч, пэўна, якраз і ўбачыў гэты нетыповы спосаб расстрэлу з вінтовак. Мы падрабязна апытвалі ўсіх, хто чуў, як гучалі стрэлы, і тых, хто бачыў, як забівалі, ці дачуўся ад тых, хто бачыў, — і прыйшлі да высновы, што стралялі ў асноўным з наганаў ці пісталетаў (што і пацвердзілася потым раскопкамі).

«А моцна гучалі стрэлы?» — пытаемся ў Валянціны Міхайлаўны Шаханавай (з 1929 г.) з Цны. «Не, гэтак суха — «хлоп-хлоп-хлоп», але ўвесь час. Пастраляюць, потым памаўчаць, і зноў — «хлоп-хлоп-хлоп». Валянціна Міхайлаўна таксама была ўнутры «душагубкі». Падкапаліся з суседнім хлапчуком пад плот і залезлі, каб назбіраць ягад (а было ім гадкоў па 10—12). Там яны ўбачылі ўскапаную зямлю і мноства засыпаных ям. Вылезлі з ягадамі, а насустрач вайсковец. «Стой! А ну, высыпай!» — загадаў хлопчыку. Забраў ягады і як гыркне: «Марш атседава!»

Расстрэлы адбываліся да самага пачатку вайны. У час вайны жыхары з навакольных вёсак разабралі плот на гаспадарчыя патрэбы, а стары бор неўзабаве спілавалі і расцягнулі. Цяпер тут расце пасляваенны лес з 40—45-гадовымі дрэвамі.

«Немцы там не расстрэльвалі?» — пытаемся ў Валянціны Міхайлаўны. «Не, немцаў там не было, не расстрэльвалі». Гэтае пытанне мы задалі кожнаму апытанаму. Адказвалі ўсе аднолькава, — немцы гэтай мясцінай не цікавіліся.

«Як выглядала тая мясціна, калі разабралі агароджу?» — пытаемся ў В. Шаханавай. «Усё ўскапанае: пясок і высокая трава. І надта шмат чырвоных грыбоў, гэткіх пунсовых, на тоненькіх ножках. Нібы крывёй налітых. От, казалі, кроў людская прарасла». Пра чырвоныя грыбы на магільных ямах успаміналі многія людзі, лічылі, што гэта яны ад пралітай крыві з'явіліся. Зноў фальклорны вобраз пакут, падумалі мы. Але потым высветлілі: праўду казалі людзі. Такія грыбы называюцца часночнікі, растуць на глыбока ўскапаным пяску і пахнуць часнаком.

ЦЯЖКА размаўляць са старымі жанчынамі пра той час. «А мае дзеткі, колькі добрых людзей пастралялі! — выгукае Кацярына Мікалаеўна Багайчук. — Хоць бы ім помнік які паставіць!» Плача... «Асабліва жудасна было ноччу, — кажа Надзея Яфімаўна Хоміч (з 1922 г.) з Зялёнага Луга. Да вайны яна жыла ў Бабруйску, але часта прыязджала ў Зялёны Луг да сястры, хата якой стаяла каля лесу.— Заўсёды стрэлы, брэх сабак, крыкі, галашэнне». Таксама плача...

«Сабакі былі злыя, відаць, галодныя, — дадае Соня Андрэеўна Козіч (з 1925 г.) з Зялёнага Луга. — А стралялі амаль без перапынку, асабліва ўначы».

«Шмат было кругом распырскана крыві, — расказвае Марыя Іванаўна Пацяршук (з 1925 г.) з Цны. — Стогны, стагналі нават закапаныя...»

Вера Фёдараўна Тоўсцік (з 1933 г.) з Драздова памятае, калі было ёй гадкоў сем, са старэйшымі дзецьмі бегала глядзець на забойствы. Успаміны яе фрагментарныя, што захавала дзіцячая памяць — засыпаныя свежым жоўтым пяском ямы і кроў на траве. «І пясок над ямамі яшчэ варушыўся, нібы дыхаў».

Пытанне: «Ці забралі каго з Драздова?» — «Не памятаю, малая была. Але старэйшыя расказвалі, што па вёсках забіралі. Ездзіла машына. Ноччу заходзілі і казалі — збірайся. Куды — не тлумачылі. От чалавек і збіраўся, клаў у торбачку хлеба, сала. А іх потым прывезлі ўнь туды і пастралялі ў ямах. Няўжо ж ніхто ім і помніка не паставіць? Колькі людзей набіта! Колькі народу звялі!».

Матруна Мікалаеўна Мантасава (з 1914 г.) з Зялёнага Луга расказвае, што ў 1937 годзе забралі двух мужчын Стрыгавых з Падбалоцця. «Хто яны былі?» — пытаемся. — «А простыя людзі, рабочыя». — «За што ўзялі?» — «Ніхто не ведае. Тады не казалі і не пыталіся. Ноччу па вёсках машына, буда такая хадзіла — «чорны воран» называлася. Людзей забіралі і адвозілі. І да сённяшняга дня ніхто не ведае, дзе яны. Можа, там і ляжаць... Схапілі яшчэ мужа Тані Матусевіч і настаўніка, што побач жыў. Прозвішчы астатніх не прыпамінаю. Усе казалі, што па вёсках забіраюць. Колькі добрых людзей пазабівалі! Цяпер хоць бы ім помнік які паставілі. Гэта ж такі глум быў над народам!»

В. Шаханава паведаміла, што памятае, як забралі трох чалавек з суседняй вёскі Якубавічы. «За што?» — «От, кажуць, адзін на аднаго па злосці нагаварылі — усе і згінулі. І ў нас у Цне схапілі настаўніка Арсеня Паўлавіча Грушу. Добры быў чалавек». Валянціна Міхайлаўна сказала, што чула ў той час апавяданні старэйшых, як чапляліся з дамаганнямі да аднаго цнянскага актывіста-брыгадзіра, каб «паставіў» неабходную колькасць «ворагаў народа».

Пра арышты ў акрузе пытаемся ў Марыі Рыгораўны Пацяршук. «З Хмарыншчыны (гэтай вёскі ўжо не існуе. — **Аўт.**) забралі трох чалавек: Філіповіча Андрэя, Цярлюка Сцяпана, а трэцяга забылася, нейкага новага». — «Ці чулі пра запросы ці патрабаванні выдаць «ворагаў народа»?» — «З 1937 года старшынёй сельсавета (мы тады былі Папернянскага сельсавета) быў Бацян Цімафей Васільевіч, дык у яго дапытваліся — ці няма ў цябе якіх? А ён адказваў: не, у мяне няма».

Пытанне: «Яшчэ дзе-небудзь у акрузе расстрэльвалі людзей?» — «Так, расстрэльвалі. У Ждановічах, ля Баравой, ля Драздова справа ад вузкакалейкі (цяпер вузкакалейкі няма. — **Аўт.**) і ў Мінску за паркам Чалюскінцаў, там, дзе завод Вавілава».

Пытанне да М. Р. Пацяршук, Д. І. Тоўсцік і М. І. Пацяршук (дэпутат сельсавета, член КПСС): «Што цяпер трэба зрабіць з гэтай мясцінай? Горад жа ўжо пад бокам, дарога кальцавая закранула?» — «Паставіць помнік», — адказваюць усе.

Спаткаліся нам, аднак, людзі, што расказвалі пра ўсё амаль шэптам. Прасілі нідзе не называць іхняе прозвішча. Некаторыя адмоўчваліся. А, напрыклад, Мікалай Васільевіч Ігнашоў (з 1914 г.) з Зялёнага Луга, які прайшоў праз усю вайну да Берліна, сказаў нам толькі, што баяўся нават наблізіцца да таго плота, бо хто за яго заходзіў — назад не вяртаўся.

Аднак былі і сарві-галовы, якія пацяшаліся тым, што выкопвалі трупы (асабліва спачатку, калі не было плота) і саджалі іх пад дрэва, каб «насаліць» энкавэдзістам. «Адзін раз нехта адкапаў і выцягнуў з ямы дваіх, — расказвае В. Скварчэўскі. — Пасадзіў пад дрэва, даў у рукі газету, — хай чытаюць. Шум быў. Хацелі даznацца, хто гэта зрабіў». Такі быў тут побыт... Абставіны, якія спараджалі ледзянячы жах і ледзянячае кашчунства.

**Аналіз сталінскай сістэмы генацыду, новыя факты, што выяўлены цяпер, робяць зразумелым, чаму знішчалася ў першую чаргу інтэлігенцыя, кіруючыя партыйныя і ваенныя кадры, працавітыя сяляне. Але не заўсёды зразумела, чаму забівалі цёмных, нават непісьменных сялян і рабочых. Цяжка ўявіць сталінскую логіку і тых, хто быў з ім, бо яна, па сутнасці, не чалавечая, яна з нейнім іншым знакам. Тлумачэнне можа часткова даць так званая «планавая эканоміка» рэпрэсій. У 1930-х гадах Молатаў паведаміў Сталіну, што не хапае турмаў, а самае галоўнае, скардзіўся Молатаў, што арыштаваных «трэба карміць». У краіне якраз быў голад. Тады шырока пачалі прымяняць лагерную сістэму, забойства людзей на этапах у дарозе, марэнне марозам і голадам і да т. п. У знішчэнні народаў быў прыменены планавы «прагрэсіўны» метад. На кожны горад, раён і г. д. выдавалася разнарадка. Рэпрэсіі адбываліся па графіку. Узнік «рух» за выкананне і перавыкананне плана рэпрэсій (выяўлення «ворагаў народа»). Колькасць індывідуальна выяўленых «ворагаў» паведамлялася ў справаздачах, выступленнях, газетах. Калі ж план не выконваўся, а быў канец планавага перыяду, бралі любога. Тады і гойсалі «чорныя вораны» па вёсках.**

МЯСЦІНА ля заслаўскай дарогі звалася Брод. Тут непадалёк было некалі балота. А ці мела раней назву тое месца, што было потым абгароджана, той бор на ўзгорках, спыталіся мы ў жыхароў Драздова. Так, адказалі яны, мясціна называлася Курапаты. «А чаму?» — «Бо вясной там скрозь раслі белыя кветкі — курапаты». «Кураслепкі хіба?» — «Ага, кураслепкі — курапаты (дыялектная назва белых пралесак. — **Аўт.**)».

Невыказна цяжкае ўражанне пакідаюць Курапаты. З паўднёвага боку мясціну падрэзала кальцавая дарога, якую праклалі тут у 1957 годзе. Тады выграбалі чарапы і косці. Падымаемся па адхону, ступаем у лес, і адразу пачынаюцца магілы — безліч праваленых зарослых ямін. Людзі згнілі — і зямля асела. Яміны розныя: 2 X 3; 3 X 3; 4 X 4; 6 X 8 метраў і большыя. Западзіны бываюць на 70—80 см. У цэнтры— вялікі ўзгорак-града. На схілах яго і ў лагчынах скрозь праваленыя ямы, ямы. Толькі па самай вяршыні грады больш-менш гладка — нібы дарога была некалі. Можа, па ёй пад'язджалі машыны, каб пасвяціць фарамі ўначы. З паўднёвага боку мы знайшлі месца, дзе стаяў плот. Добра захаваўся роў, што быў перад ім, як і распавядалі нам вяскоўцы. Па ледзь прыкметных выемках пазнаём, дзе стаялі слупы — на адлегласці чатырох метраў адзін ад аднаго.

Ямы розныя па памерах. Магчыма, былі неаднолькава заглыбленыя. Таму колькасць забітых падлічыць па магілах больш-менш дакладна не ўдаецца...

У 70-х гадах на Курапатах было яшчэ адносна ціха. Цяпер сюды наблізіўся мікраараён Зялёны Луг-6. Калі прыйдзеш на магілы, ахоплівае нейкая роспач. Цяпер тут зона адпачынку мінчан. Гуляюць дзеці...»

**З. Пазняк:** І мая сёлета тут было весела і тлумна, як на праспекце. Адпачываюць сем'ямі і кампаніямі. У магілах паляць вогнішчы, тут жа ядуць, п'юць, смажаць шашлыкі, іграюць на гітарах, у карты, ламаюць голле, высякаюць дрэвы, хрыпяць транзістары. Адзін счэсвае бярэзіну, што вырасла з магільнай западзіны, хоча дастаць соку... Дзіўлюся, чаму не цячэ з яе кроў. Вядома, людзі нічога не ведаюць; не ведаюць, што пад імі ляжыць пакаленне. Але зноў успыхвае ў свядомасці вобраз, як той паравоз, толькі з шашлычным дымам.

**Я. Шмыгалёў:** Калі паміраюць «ціхія пенсіянеры», што стварылі гэтае бяспамяцтва, іх кладуць у труну, на хаўтурах кажуць пра іх добрыя словы, грае аркестр. А для тых, што ляжаць тут, аркестрам быў брэх і наганныя стрэлы. А як пакутавалі дзеці, сем'і рэпрэсіраваных! О не, трэба памятаць усё. І пасля смерці хай кожнаму аддасца яго.

Агляд некаторых магіл спарадзіў у нас трывожныя падазрэнні. Занадта глыбокія западзіны, а па баках часам бугаркі, нібы раскопваў хто некалі. Некаторыя ямы нядаўна раскапаны ў глыбіню больш чым на метр. Нідзе ніводнай косткі. У адной магіле школьнікі паглыбляюць зямлянку. Глыбіня звыш метра. Чысты рыхлы незляжалы паварушаны пясок. Трывога ўзмацнілася, калі мы ўспомнілі апавяданне аднаго вяскоўца, які захацеў застацца інкогніта — аб тым, што адразу пасля вайны тут доўга капаліся салдаты.

5 мая 1988 г. сіламі археалагічнай групы Інстытута гісторыі АН БССР мы правялі раскопкі адной з магіл. Шурф 0,5×1 м у цэнтры западзіны быў выкапаны на глыбіню 1,5 метра. Ніякіх вынікаў. Чысты пясок.

Гэтае адкрыццё усю нашу групу ў складзе пяці чалавек уразіла не менш, чым сам факт масавых рэпрэсій. Як жа мы недаацанілі іх подласць! Вось хто капаўся тут пасля вайны! Замяталі сляды. Значыць, ведалі яшчэ тады, што тварылі! Дзе ж ваша «чэсная» ўпэўненасць у справядлівасці сваіх спраў, у справядлівасці загадаў?! Аказваецца, вы баяліся яшчэ тады. Зрабіць такую егіпецкую работу! Выкапаць столькі трупаў! Куды вы іх падзелі? Вывезлі і закапалі? Спалілі? Не дробная сошка дала загад на эксгумацыю. Берыя? Цанава? Маленкоў? Хто?

У той жа дзень выявілася, што не ўдалося забойцам замесці сляды. Да нас падышлі хлапчукі, што 1-га мая капалі зямлянку ў магільнай западзіне, і павялі на другі канец тэрыторыі. Яны раскідалі яловыя лапкі, што прыкрывалі загарадку з жэрдак, і мы ўбачылі кучу прастрэленых чалавечых чарапоў, касцей, скуранога і гумовага абутку. Заглыбіўшы сваю зямлянку амаль на два метры, хлопцы наткнуліся на завал чалавечых касцей. Яны адкапалі ніжні штабель магілы.

Успомнім, як энкавэдзісты, настраляўшы адну партыю людзей, прысыпалі трупы і раўнялі дно. Пры эксгумацыі салдаты выбралі косці да глыбіні двух метраў і вырашылі, пэўна, што яме канец. Ці проста «схалтурылі», калі начальства побач не было. Сапраўдная глыбіня магільнай ямы 2,8 м, памер прыблізна 3×3 м. Хлопчыкі акуратна, як археолагі, выбралі палову штабеля (23 чалавекі). Сярод трупаў знайшлі фарфоравыя і эмаліраваныя кубкі, скураны кашалёк з савецкімі капейкамі 1930-х гадоў (апошняя дата на манетах — 1936 г.), зубную шчотку ў футарале вырабу віцебскай фабрыкі, шмат пустых страляных гільзаў ад нагана дыяметрам 7,5 мм і круглыя паламаныя акуляры ў тонкай металічнай аправе. На ўсіх гумовых галёшах клеймы айчынных фабрык і дата выпуску — 1937 г. Знойдзены скураныя мужчынскія боты, а таксама і жаночы абутак. Кулявыя адтуліны ў чарапах, як правіла, на патыліцы, дзе часта відаць побач па дзве дзіркі. Ёсць некалькі чарапоў з дзіркамі ў скроні, на лбе і зверху галавы (дастрэльвалі ў яміне). Усе ўваходныя адтуліны дыяметрам 7,5 мм.

Пра што гавораць гэтыя знаходкі? Магіла была «настраляна» ў 1937—1938 гг. Забівалі з наганаў. Людзей, відаць, расстралялі без суда, без аб'яўлення выроку смерці. Вось тут яны і ляжаць са сваімі клуначкамі, сабранымі, калі загадалі «збірацца», кубачкамі, зубнымі шчоткамі і нават медзякамі. На расстрэл, пэўна, не рыхтаваліся.

Хочам назваць прозвішчы хлопцаў, якія дапамаглі нам у нялёгкім даследаванні. Гэта Ігар Бага (ён ужо скончыў школу і працуе мулярам) і вучні 171-й школы Мінска Віктар Пятровіч і Аляксандр Макрушын.

Другая яміна-магіла была закранута ў час пракладкі газавай траншэі па вяршыні ўзгорка-грады праз Курапаты. Магіла невялікая, размешчана была ўбаку ад былога праезду. У час эксгумацыі яе, пэўна, «прапусцілі», забыліся раскапаць. Рабочыя БМУ «Белспецмантаж» Дзяржкамгаза БССР і потым дзеці выявілі тут косці і 15 прастрэленых чарапоў, 20 пар скуранога абутку і галёшаў. Сярод абутку — рэшткі жаночых туфляў. На галёшах клеймы айчынных фабрык і дата — 1939 г. На адным галёшы кляймо рыжскай фабрыкі і надпісы па-латышску. Дата — 1939 г. Зразумела, што гэта магіла 1940 года, дзе сярод іншых быў расстраляны латыш (з Латвіяй, здаецца, тады галёшамі не гандлявалі).

Пра раскопкі быў складзены адпаведны акт і паведамлена ў Бараўлянскі сельсавет. Старшыня сельсавета Сяргей Іванавіч Чачанец паставіўся з разуменнем да звестак пра магілы расстраляных. Была нават створана камісія для высвятлення акалічнасцей і перазахавання чалавечых рэшткаў, а косці сабраны ў спецыяльна зробленую труну.

Цяпер перш за ўсё трэба змясціць адпаведныя надпісы ля Курапат з інфармацыяй пра гэтую мясціну, каб людзі ведалі, што яна не для пікнікоў і адпачынку. Не думаем, што эксгумацыя ўсіх магіл, мяркуючы па тым, што выяўлена, была праведзена ў 1940-х гадах акуратна, да канца. Напэўна, там яшчэ ляжаць на дне глыбачэзных ямін тысячы забітых.

Неабходна таксама зрабіць публічнае перазахаванне адкапаных рэшткаў і падумаць пра помнік ахвярам сталінскіх рэпрэсій на гэтым месцы.

АСОБНАЯ тэма — пра дараванне і пакаранне. Няхай чытач пра гэта падумае сам. Мы мяркуем, што няма даравання за генацыд. На тых, што рабілі такое, не павінен распаўсюджвацца тэрмін даўнасці. Калі трапляеш у глыбокую і халодную трохметровую яму, усланую трупамі, — бярэш у рукі слізкую падэшву ад маленькай, не больш за 34 памер жаночага туфля,— разумееш гэта адназначна.

...А яны яшчэ спрабуюць казаць пра нейкія «прынцыпы».

**Саюз пісьменнікаў БССР выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Максіму Лужаніну з выпадку напаткаўшага яго гора—смерці дачкі Алены.**

**Саюз пісьменнікаў БССР выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Алесю Дзятлаву з прычыны напаткаўшага яго гора—смерці МАЦІ.**

